ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 3 (2405) 19 студзеня 1995 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 100 рублёў.

*ВАЙНА: ДРУГІ БОК МЕДАЛЯ*

## ЦАНА ПЕРАМОГІ

"Тады лічыць мы сталі раны, таварышаў лічыць..."

КАЛІ -- ТАДЫ? Лермантаўскія героі зрабілі гэта адразу пасля Барадзіна, на прапахлым парахавым гарам полі. Салдаты другой сусветнай, Вялікай Айчыннай вайны, не ведалі і не ведаюць да сёння, колькі ж таварышаў пакінулі яны ў сырой зямлі Беларусі.

Вайна ўсё далей адыходзіць ад нас -- і мяняецца наш пункт гледжання на яе. Уласцівасць нашых дзён -- адкрыццё праўды аб рэчах, здавалася б, даўно вядомых. І яшчэ: карэкцыя нашай маральнай свядомасці. Быць чалавекам трэба заўсёды, у тым ліку і ў адносінах да пераможанага праціўніка: гэтая ісціна не заўсёды была ісцінай для нас...

Колькі яшчэ касцей раскідана па палях і лясах беларускіх? Невядома. Да сённяшняга дня -- з часоў Вялікай Айчыннай. Хто ў выкапанай наспех баявымі таварышамі магіле пакоіцца, хто пахаваны мясцовым насельніцтвам, хто знішчаны і закапаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Так і ляжаць -- улічаныя і невядомыя...

22 ЧЭРВЕНЯ 1941 года... Які гэта быў страшны момант у гісторыі! Сышліся ў смяртэльнай схватцы дзве найбуйнейшыя арміі свету. Ні адна бітва ў гісторыі чалавецтва не ідзе ў параўнанне з гэтай. Нават каласальныя ваенныя аперацыі жніўня 1914 года. Па колькасці людзей, вазе боепрыпасаў, працягласці фронту, адчайнаму шаленству баёў дзень 22 чэрвеня ніколі не будзе перасягнуты.

Заходняя асобая ваенная акруга (камандуючы генерал арміі Д.Паўлаў, начальнік штаба генерал-маёр В.Клімаўскіх, член Ваеннага Савета карпусны камісар А.Фаміных) дыслацыравалася на тэрыторыі Беларусі і прыкрывала напрамак на ўчастку ад паўднёвай граніцы Літоўскай ССР да паўночнай граніцы Украінскай ССР...

ЗахАВА была адной з мацнейшых ваенных акруг у Савецкіх Узброеных Сілах. Па свайму саставу яна саступала толькі Кіеўскай асобай ваеннай акрузе.

Аналіз перадваеннага плана абароны дзяржаўнай граніцы паказвае, што большасць злучэнняў акругі была сканцэнтравана ў Беластоцкім выступе. З 26 дывізій першага эшалона тут разгортваліся 19, у тым ліку ўсе танкавыя і матарызаваныя. Найбольш моцная 10-я армія знаходзілася ў цэнтры аператыўнага пастраення. Яна была выстаўлена наперад у параўнанні з 3-й і 4-й. У выніку флангі створанай групоўкі аказаліся слабымі. Памылковае размяшчэнне прыгранічных армій ЗахАВА рабіла іх уразлівымі для ахопу з флангаў.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



Руіны замка -- сімвал Навагрудка. Сёлета ў чэрвені тут пройдзе першы з'езд Згуртавання навагрудцаў свету. (Матэрыял "ЦІ НЕ ЧАС САБРАЦЦА РАЗАМ", прысвечаны гэтай падзеі, змешчаны на 4-й стар.).

## АДСПЯВАЛІ, АДКАЛЯДАВАЛІ...



**Вось і скончылася свята, якое з нецярпеннем чакаюць праваслаўныя людзі -- Нараджэнне Хрыстова. Святкуюць яго зараз зусім не так, як раней: адкрыта ідуць усёй сям'ёй у царкву, потым разгаўляюцца пасля паста, прымаюць гасцей, самі на адведкі ходзяць. Яшчэ адна з прыкмет адноўленых традыцый -- Калядкі. Яшчэ некалькі гадоў таму назад за з'яўленне на вуліцах сталіцы з казой і Віфлеемскай зоркай можна было трапіць проста ў аддзяленне міліцыі. А ўжо пазбавіцца камсамольскага білета -- дык гэта як піць даць: за распаўсюджанне патрыярхальшчыны і гнілой буржуазнай ідэалогіі.**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

НЕ АБМІНУЎ ЁН БЕЛАРУСІ...

## САСНА КАРМІЛА, ЛІПА АДЗЯВАЛА

Многіх збіральнікаў і даследчыкаў народнай культуры прыцягвала Беларусь як своеасаблівы астравок даўніны і казак. Не выключэнне і Сяргей Максімаў -- рускі пісьменнік, выдатнейшы этнограф-белетрыст, таленавіты збіральнік вуснапаэтычнай творчасці.

У значнай ступені творчы лёс С.Максімава вызначыла яго збліжэнне з гурткоўцамі "Масквіцяніна", якімі кіраваў А.Астроўскі. Менавіта тут атрымалі развіццё закладзеныя з дзяцінства любоў да роднай прыроды, да простых рускіх людзей, павага да іх духоўнага жыцця.

Хуткім часам у друку пачалі з'яўляцца яго першыя мастацкія спробы -- расказы з жыцця сялян. Гэтыя мініяцюры адкрыта заявілі аб асаблівасцях яго творчага метаду, якія дазволяць А.Пыпіну назваць С.Максімава адным з лепшых прадстаўнікоў новага грамадска-этнаграфічнага накірунку рускай літаратуры. Расказы маладога аўтара вылучаліся амаль навуковай дакладнасцю, паўнатой апісання этнаграфічных з'яў, арыгінальным паказам фальклору як жывога працэсу штодзённага народнага быту. Уключаючы ў свае творы розныя жанры народнай творчасці, пісьменнік наглядна і пераканаўча дэманструе жыццёвую непадзельнасць матэрыяльнага і духоўнага пачаткаў у народнай культуры.

Дзе толькі ні давялося пабываць С.Максімаву! Яго "кругасветнае" падарожжа пачалося з Поўначы, з даследавання ўзбярэжжа Белага мора, Салавецкіх астравоў. І як вынік -- кніга "Год на Поўначы", якая зрабіла імя аўтара папулярным. Потым -- падарожжа на Амур і далей, да берагоў Ціхага акіяна, пазней неверагодна складанае як фізічна, так і маральна заданне марскога міністэрства даследаваць быт турмаў, катаргі і ссыльных пасялішчаў Сібіры. Кніга, у якой не столькі апісаны ўмовы жыцця ссыльных, колькі дадзены тонкі псіхалагічны партрэт зняволеных, "няшчасных", была прызнана цэнзурай небяспечнай і выдадзена пад грыфам "сакрэтна". Далей накіроўваецца С.Максімаў на Поўдзень -- узбярэжжа Каспійскага мора, на Каўказ. І зноў -- кнігі, артыкулы, даследаванні...

У 1890 годзе выходзіць яго самая унікальная для тых часоў праца -- кніга "Крылатыя словы". Гэта на даведнік, не слоўнік, гэта зборнік мастацкіх твораў, празаічных мініяцюр, вытанчаных па форме і кампазіцыйна завершаных. Аўтар не проста выказвае здагадкі, а малюе, апісвае абставіны, пры якіх мог узнікнуць той ці іншы крылаты выраз. А з якой радаснай шчодрасцю дзеліцца пісьменнік з намі сваімі ведамі, навуковымі гіпотэзамі, уражаннямі, назіраннямі. Не залежалася і зараз на паліцах кнігарняў Мінска адносна дарагое перавыданне яшчэ адной кнігі Максімава -- "Невядомая, нячыстая і хрышчоная сіла", бо чытаецца яна на ўзроўні прыгодніцкіх аповесцей і ўтрымлівае разам з тым бясцэнныя звесткі з галіны духоўнай культуры ўсходніх славян.

У 1867 годзе С.Максімаў па рашэнню Рускага геаграфічнага таварыства накіроўваецца з мэтай этнаграфічнага даследавання ў заходнія губерні Расіі. Згадзіўшыся на падарожжа па сямі губернях -- Пскоўскай, Смаленскай, Віленскай, Гродзенскай, Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай, -- пісьменнік збіраўся як бы замкнуць кола сваіх вандраванняў па Русі.

(Заканчэнне на 6-й стар).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 12 студзеня прыняў вядомага амерыканскага фінансіста-мецэната Джорджа Сораса, заснавальніка сеткі дабрачынных фондаў.
НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

### БЕЛАРУСЬ ПАДПІСАЛА ПРАГРАМУ "ПАРТНЁРСТВА ДЗЕЛЯ МІРУ"

Рэспубліка Беларусь стала 24-й краінай, якая далучылася да натаўскай праграмы "Партнёрства дзеля міру". 11 студзеня ў штаб-кватэры НАТО ў Брусэлі рамачны дакумент праграмы падпісаў міністр замежных спраў нашай рэспублікі Уладзімір Сянько.

Перад цырымоніяй падпісання ПДМ У. Сянько сустрэўся з генеральным сакратаром НАТО В. Класам. У ходзе гутаркі бакі абмяняліся думкамі аб развіцці міжнароднай сітуацыі, становішчы ў краінах СНД і Рэспубліцы Беларусь у прыватнасці. В. Клас выказаў глыбокае задавальненне тым, што новае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь прыняло рашэнне аб далучэнні да праграмы ПДМ і тым самым праявіла намер унесці свой уклад у будаўніцтва новай агульнаеўрапейскай бяспекі. На яго думку, наступным крокам павінна быць распрацоўка індывідуальнай праграмы паміж Беларуссю і НАТО, канкрэтны змест якой можа быць вызначаны ў ходзе далейшага перагаворнага працэсу.

*СУПАДЗЕННЕ ПОГЛЯДАЎ*

### ПРЫВІТАННЕ АД БАРЫСА ЕЛЬЦЫНА

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМа ў Адміністрацыі Прэзідэнта рэспублікі, Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын адрасаваў Аляксандру Лукашэнку тэлеграму. У ёй кіраўнік расійскай дзяржавы паведамляе, што поўнасцю падзяляе выкладзеныя ў пасланні Аляксандра Лукашэнкі ад 18 лістапада 1994 года канцэптуальныя погляды на шляхі далейшага паглыблення эканамічнай інтэграцыі, умацавання расійска-беларускага супрацоўніцтва ва ўсіх сферах жыцця.

"Мы лічым прыярытэтнай задачай знешняй палітыкі Расіі вывесці нашы адносіны з Рэспублікай Беларусь на якасна новы ўзровень, забяспечыць яшчэ больш цесныя ўзаемадзеянні нашых краін у правядзенні эканамічных і сацыяльных пераўтварэнняў", -- гаворыцца ў пасланні Барыса Ельцына. Расійскі Прэзідэнт перакананы, што "ва ўзаемных інтарэсах трэба было б дакладна вызначыць план сумесных дзеянняў па далейшаму расшырэнню нашага супрацоўніцтва як на двухбаковай аснове, так і ў рамках СНД".

*НОВАЯ КУПЮРА*




У рэспубліцы пушчана ў абарачэнне новая 20-тысячная купюра (на здымку). Але, відаць, не апошняя, бо курс беларускага рубля ў адносінах да валюты іншых краін пастаянна падае.

*КРЫХУ СТАТЫСТЫКІ*

### КОЛЬКІ ЗАРАБЛЯЕМ

Сярэдняя заработная плата рабочых і служачых за лістапад мінулага года па краіне склала 221 тысячу 24 рублі. У прамысловасці -- 228 тысяч 82 рублі (27 доларaў), у транспартнікаў -- 238 тысяч 49 рублёў (28 долараў). Больш за іх атрымалі будаўнікі -- 274 тысячы 987 рублёў (33 долары), а менш за ўсіх мелі ў сельскіх гаспадарках -- 117 тысяч 776 рублёў (14 долараў). Што датычыцца бюджэтнікаў, то тут карціна наступная: у галіне аховы здароўя -- 194 тысячы 663 рублі (23 долары), адукацыі -- 188 тысяч 126 рублёў (22 долары), культуры -- 157 тысяч 668 рублёў (19 долараў), мастацтва -- 142 тысячы 848 рублёў (17 долараў).

*ТЭЛЕГРАМА ГРАМАДЫ*

### НАМ НЕ ПАТРЭБНЫ "СТАРЭЙШЫ БРАТ"

Выканком Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады 5 студзеня 1995 года прыняў наступны тэкст тэлеграмы на імя Старшыні Дзяржаўнай думы Расіі Івана Рыбкіна:

"Затапіўшы крывёю Чэчню пад выглядам "аднаўлення канстытуцыйнай законнасці" і "абароны тэрытарыяльнай цэласнасці Расіі", знішчаючы тысячы ні ў чым не вінаватых сваіх грамадзян, афіцыйная Масква мае нахабства заклікаць да ўз'яднання Беларусі і Расіі.

Панове!

Незалежнай Беларусі не патрэбны старэйшы брат. Мы хочам раўнапраўнага супрацоўніцтва з усімі дзяржавамі, уключаючы і дэмакратычную і цывілізаваную Расію. Мы шчыра жадаем нашай вялікай усходняй суседцы як мага хутчэй стаць такой краінай.

Жыве незалежная Беларусь!"

Повадам для такога рэзкага пратэсту паслужыла прапанова некаторых дэпутатаў Дзярждумы правесці 17 сакавіка 1995 года сумеснае пасяджэнне беларускага і расійскага парламентаў, дзе б разглядалася пытанне аб магчымасцях аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву.

*НА ВЕРНАСЦЬ БЕЛАРУСІ*




Шэсцьдзесят прызыўнікоў тэрміновай службы з усёй рэспублікі, прыняўшы прысягу на вернасць Беларусі, пачалі выкананне сваіх абавязкаў у асобным атрадзе міліцыі, створаным летась на базе воінскай часці ў Паўночным гарадку Брэста. Цяпер у атрадзе каля 250 байцоў. Такія ж атрады створаны ў Пінску і Баранавічах.
НА ЗДЫМКУ: прысягу прымае Аляксандр АМЯЛЬКОВІЧ.

*МЯЖА З ЛІТВОЙ*

### НАШЧАДКАМ ПРАБЛЕМ НЕ ПАКІНУЛІ

У Вільнюсе завершаны перагаворы па дэлімітацыі і дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы паміж Беларуссю і Літвой, што праходзілі тры гады. Аб гэтым паведаміў кіраўнік беларускай дэлегацыі на перагаворах намеснік міністра замежных спраў Станіслаў Агурцоў.

-- Абодва бакі, што дамаўляліся, імкнуліся працаваць так, каб не пакідаць нашчадкам спрэчных пагранічных пытанняў, -- падкрэсліў дыпламат. -- На перагаворах нязменна прысутнічаў дух супрацоўніцтва, узаемаразумення і кампрамісу.

У выніку 700-кіламетровая лінія мяжы была праведзена з амаль "ювелірнай дакладнасцю". 74 з 86 спрэчных не ўчастках вызначыліся без асаблівых дэбатаў. За аснову былі ўзяты прынцып практычнага землекарыстання. А вось на ўдакладненне астатніх 12 участкаў пайшлі гады. Асноўная праблема заключалася ў вызначэнні воднай працягласці мяжы. Але і на гэтым складаным участку работа вялася карэктна. У выніку Беларусь атрымала доступ да ўсіх памежных водных аб'ектаў.

Няпроста вырашаўся і лёс станцыі Гадуцішкі. Дэлегацыі не змаглі прыйсці да ўзаемнага пагаднення. І тады да перагавораў падключыліся прэм'ер-міністры Беларусі і Літвы. За дзве сустрэчы, адзначыў намеснік міністра, пытанне было закрыта. Асноўнае чыгуначнае палатно засталося ў Беларусі, а вось будынак вакзала аднесены да Літвы. Аднак дасягнута дамоўленасць, што эксплуатаваацца станцыя будзе сумесна.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

### ШЛЯХ У ІНТЭГРАЦЫЮ

Паводле слоў Міхаіла Чыгіра, кожны з сямі дакументаў, падпісаных у час візіту ў Мінск на пачатку студзеня віцэ-прэм'ера Расіі Аляксея Бальшакова, мае важнае значэнне для абедзвюх суседніх дзяржаў. Гэта мемарандум аб расшырэнні і паглыбленні беларуска-расійскага супрацоўніцтва, пагадненні аб мытным саюзе, аб гандлёвых неплацяжах, аб прынцыпах стварэння фінансава-прамысловых груп і інш. Калі яны запрацуюць на поўную сілу, то ў многім дапамогуць аздаравіць эканоміку. На працягу не аднаго дзесятка гадоў яна фарміравалася як адзіны механізм рэспублік былога Саюза. А калі яе пачалі "рэзаць на часткі", усё гэта прывяло да сумных вынікаў. Таму, як адзначыў прэм'ер-міністр, у час перагавораў размова не ішла аб грашах, а аб тым, як паднязь эканоміку. Расія ж з'яўляецца асноўным спажыўцом нашай прадукцыі. Яе туды пастаўляецца каля васьмідзесяці працэнтаў. Як бы мы сёння ні стараліся, вельмі цяжка знайсці іншы такі рынак збыту.

*НОВЫЯ РАДОВІШЧЫ*

### ЗАПАСАЎ НА ДВА СТАГОДДЗІ

Побач са старажытным ганчарным цэнтрам Беларускага Палесся вёскай Гарадная Столінскага раёна геолагаразведка знайшла багацейшыя па ўтрымanню кварцу запасы пяску. На думку спецыялістаў, пясок можна выкарыстоўваць нават для вытворчасці крышталю. Характэрна і тое, што каштоўная сыравіна залягае проста на паверхні зямлі. А запасы як такія, што іх хопіць, як мінімум, на 200 гадоў работы шклозавода.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

АКЦЫЯНЕРНАЕ таварыства "Рассвет" (былы калгас імя Арлоўскага) Магілёўскай вобласці будуе ў вёсцы Мышкавічы, пры ўездзе на цэнтральную сядзібу, царкву. На месцы ранейшай, якая згарэла ў 50-я гады, цяпер стаіць Палац культуры. Выдзелена больш 30 мільёнаў рублёў на ўзвядзенне храма.

РАСПУСЦІЦЬ Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, а таксама "прыцягнуць да адказнасці яго кіраўнікоў і асоб, якія патураюць антыканстытуцыйнай дзейнасці гэтай экстрэмісцкай арганізацыі" патрабуе савет Беларускага патрыятычнага руху, так званыя "тоже патрыёты" звярнуліся з ультыматумам да вярхоўных улад і праваахоўных органаў Беларусі.

СЯМЁРА малых, інфіцыраваных вірусам СНІД (AIDS), зарэгістраваны на сёння ў Беларусі. Некаторыя з іх заразіліся пры пераліванні крыві ці ў выніку ўнутрыбальнічнай інфекцыі, іншыя -- ад ВІЧ-інфіцыраваных маці.

А ў перыферыйным пасёлку Бешанковічы на Віцебшчыне зарэгістраваны першы выпадак захворвання СНІДам. Мясцовы жыхар Н. знаходзіцца ў бальніцы.

НА АДНО вакантнае месца -- 22 чалавекі. Так выглядае на сёння праблема працаўладкавання ў Брэсце. Найбольш беспрацоўных на прамысловых і будаўнічых прадпрыемствах, у гандлі і грамадскім харчаванні. Моладзь і жанчыны складаюць 70 працэнтаў беспрацоўных.

НЕКАЛЬКІ ветракоў упрыгожылі краявід саўгаса "Асташкавічы" Светлагорскага раёна. Ды збудаваны яны не дзеля прыгажосці -- ветракі выпрацоўваюць электрычны ток. Яшчэ адна нетрадыцыйная крыніца электраэнергіі -- геліяўстаноўкі. Адна з іх зманціравана ў калгасе "Дуброва". Яна ацяпляе майстэрні.

КАЛЕКТЫЎ Асіповіцкага кардонна-рубероіднага завода пайшоў, відаць, на працяглыя "канікулы". Работа спынілася з-за адсутнасці сыравіны, дарагоўлі рэсурсаў, фінансавай запазычанасці. Часткова спынена вытворчасць і на Асіповіцкім заводзе аўтамабільных агрэгатаў.

ЭПІДЭМІЯ чумы ўспыхнула ў многіх свінагадоўчых гаспадарках Віцебскай вобласці, у прыватнасці ў Гарадоцкім і Талачынскім раёнах. Прычына захворвання -- разбурэнне імуннай сістэмы свіней з-за таго, што яны ўтрымліваюцца ў вільготных свінарніках, кормяцца някасным камбікормам.

У БРАСЛАВЕ адкрыты новы комплекс цэнтральнай раённай бальніцы. Разам з наваготнімі віншаваннямі міністра аховы здароўя І.Драбышэўскай браслаўскія медыкі атрымалі ад міністэрства добры падарунак -- сучасны эндаскапічны апарат. Кошт падарунка -- 2 тысячы нямецкіх марак.

# ЦАНА ПЕРАМОГІ

**СУАДНОСІНЫ СІЛ І СРОДКАЎ У ПАЛАСЕ ЗахАВА НА 22 ЧЭРВЕНЯ 1941 ГОДА.**

| Сілы і сродкі | Праціўнік | ЗахАВА | Суадносіны |
|---|---|---|---|
| Дывізіі | 40 | 44 | 1 :1,1 |
| Асабовы састаў (тыс.) | 820 | 671,9 | 1,2:1 |
| Гарматы і мінамёты | 10 763 | 0 087 | 1,06:1 |
| Танкі | 810 | 2201 | 1:2,7 |
| Самалёты | 1 667 | 1685 | 1:1 |

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Калі камандуючы войскамі акругі генерал арміі Д.Паўлаў меў прыблізную роўнасць з праціўнікам, які яму супрацьстаяў, у пяхоце, самалётах, то выключэнне складалі танкі...

Тры арміі акругі -- 3, 10 і 4-я стаялі каля лініі фронту, што цягнулася ад Гродна да прыпяцкіх балот. У акрузе мелася пяць механізаваных карпусоў (фактычна па колькасці крыху перавышалі нямецкія танкавыя дывізіі), якія былі раскіданы па ўсёй тэрыторыі акругі і знаходзіліся ў працэсе актыўнай вучобы і камплектавання.

У першы дзень вайны 4-я танкавая група Гепнера, ударыўшы па праваму флангу 3-й арміі ЗахАВА, прабіла глыбокую брэш, куды ўварваўся танкавы корпус Манштэйна. К вечару тры савецкія дывізіі былі рассеяны, а пяць іншых панеслі страты да 70 працэнтаў асабовага саставу. 14-ты механізаваны корпус, што дыслацыраваўся ў раёне Пружаны-Кобрын, падвергся такому моцнаму ўдару нямецкай авіяцыі, што так і не паспеў разгрупавацца і быў амаль поўнасцю знішчаны. 13-ты мехкорпус, што знаходзіўся бліжэй да граніцы і ўжо к вечару пачаў бой, з-за недахопу гаручага, боепрыпасаў і тэхнічных паломак не змог арганізаваць дастаткова магутны ўдар і трапіў у акружэнне (як мяркуецца, у раёне Пружаны-Кобрын загінула і не было пахавана больш за 14 тысяч савецкіх воінаў. -- **І.К.**).

НА ПРАЦЯГУ ночы Д.Паўлаў спрабаваў стварыць конна-механізаваную групу пад камандаваннем свайго намесніка генерал-лейтэнанта І.Болдзіна, уключыўшы ў яе 6-ты і 11-ты механізаваныя карпусы, якая 23 чэрвеня павінна была нанесці контрудар з раёна Гродна па паўднёваму флангу нямецкай групоўкі, якая прарвалася.

Але даставіць своечасова загады і сабраць раскіданыя часці ў тую вар'яцкую ноч не ўдалося. Ва ўсякім выпадку, наступнай раніцай толькі адзін 11-ты механізаваны корпус апынуўся ў зыходным раёне. 6-ты мехкорпус і кавалерысты, якія ўсё яшчэ знаходзіліся ў дарозе, падвергліся знішчальным атакам авіяцыі і панеслі вялікія страты (усе сілы і сродкі ПВА корпуса ў гэты час знаходзіліся ў вучэбным цэнтры ў раёне Бярозы. -- **І.К.**). 24 чэрвеня І.Болдзін па камандзе "зверху", не маючы дастаткова сіл і сродкаў, нанёс контрудар, але страты ў асабовым саставе і матэрыяльнай частцы (да 80 працэнтаў) і ізаляваны характар наступлення асудзілі гэтую аперацыю на правал.

Імкнучыся прыкрыць свой правы фланг і аднавіць сувязь з Паўночна-Заходнім фронтам, Д.Паўлаў працягваў перакідваць дывізіі з 10-й арміі на поўнач у раён Полацк--Віцебск, каб падмацаваць аслабленую 3-ю армію, па сутнасці пакінуўшы Мінск без прыкрыцця. Тым часам 4-я армія генерала Карабкова пад націскам войск фон Клюге з фронту адыходзіла на ўсход, а яе левы фланг быў рассечаны і глыбока ахоплены 2-й танкавай групай Гудэрыяна. 25 чэрвеня яго танкавыя дывізіі на паўночны ўсход ад Слоніма разам з танкістамі Гота зацягнулі пятлю акружэння вакол савецкіх пяхотных часцей, што адыходзілі ад Беластока; 26 чэрвеня 47-мы танкавы корпус захапіў Баранавічы, а 27 чэрвеня 17-я танкавая дывізія гэтага корпуса, пераадолеўшы 75 кіламетраў, выйшла на паўднёвую ўскраіну Мінска, дзе сутрэлася з 3-й танкавай групай Гота, замкнуўшы другое, знешняе кальцо акружэння вакол войскаў Заходняга фронту (у акружэнні ў раёне Навагрудка апынулася большасць дывізій 3-й і 10-й армій, а таксама частка сіл 13-й арміі (11 дывізій), якія амаль поўнасцю былі знішчаны. -- **І.К.**).

26 чэрвеня перадавыя атрады 2-й і 3-й нямецкіх танкавых груп прарваліся на подступы да Мінска. Тут яны былі сустрэты спешна вылучанымі на рубеж Мінскага ўмацаванага раёна злучэннямі 2-га і 44-га стралковых карпусоў. Разгарнуўшыся на фронце звыш 100 кіламетраў, яны на працягу 26--28 чэрвеня паспяхова адбівалі атакі танкавых часцей праціўніка. Толькі воіны 100-й стралковай дывізіі ў раёне Астрашыцкага гарадка спалілі звыш ста танкаў і знішчылі адзін пяхотны і адзін танкавы полк праціўніка, але і ў большасці сваёй палеглі касцьмі на гэтым рубяжы абароны (яны да гэтага часу знаходзяцца ў траншэях і акопах, там, дзе іх напаткала смерць. -- **І.К.**).

Жорсткія, кровапралітныя баі працягваліся... 1 ліпеня 1941 года 4-я танкавая дывізія фарсіравала Бярэзіну каля Свіслачы, а на наступны дзень 18-я танкавая дывізія групы Гудэрыяна захапіла плацдарм каля Барысава...

У ПАЧАТКУ вайны Заходні фронт панёс вялікія страты ў людзях і тэхніцы. З 44 дывізій, якія меліся перад вайной, 24 былі разгромлены (сд-10, тд-8, мд-4, кд-2). Астатнія 20 злучэнняў страцілі ў сярэднім палавіну сіл і сродкаў, а ВПС фронта -- 1 797 самалётаў.

Толькі ў першы тыдзень баёў войскі Заходняга фронту забітымі страцілі каля 500 тысяч чалавек (77 працэнтаў штатнай колькасці). Калі ўлічыць, што ў першыя дні вайны толькі на тэрыторыі Беларусі ў дзеючую армію было мабілізавана звыш 400 тысяч чалавек і большасць з іх загінула, так і не трапіўшы ні ў якія спісы, то можна выказаць меркаванне, што гэтая лічба перавысіць 650 тысяч чалавек.

І гэта без уліку тых, хто загінуў у палоне, у партызанскіх атрадах і г.д. Дакладную лічбу загінуўшых на тэрыторыі Беларусі ў пачатковы перыяд вайны ўстанавіць немагчыма.

Таксама нельга дакладна вызначыць месцы нават масавых пахаванняў. Гэта тлумачыцца перш за ўсё тым, што выканаць патрабаванні загада народнага камісара абароны N 138 ад 15 сакавіка 1941 года аб парадку пахавання загінуўшых у баях, у тых умовах, калі тэмпы руху нямецкіх войскаў у суткі дасягалі 200 кіламетраў, было нават пад пагрозай расстрэлу **немагчымым.** Такім чынам, сотні тысяч савецкіх воінаў так і засталіся непахаванымі і нават невядомымі.

З ПАЧАТКУ вайны прайшло больш паўстагоддзя. Колькі сказана слоў аб неабходнасці ўвекавечвання памяці загінуўшых абаронцаў Радзімы, колькі прайшло юбілеяў, колькі змянілася кіраўнікоў, колькі прайшло вахт памяці. Стваралася ўражанне, што загінуўшых удалося вырваць з палону забыцця. Але гэта толькі на першы погляд...

З выхадам у свет 21 снежня 1992 года пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь N 763 "Аб увекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў", а таксама са стварэннем у Камітэце па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых адпаведнага ўпраўлення здавалася, што праблему можна вырашыць. Аднак гэтага не адбылося. Перш за ўсё таму, што гэта работа, як і раней, праводзіцца не дзяржавай, а грамадскімі арганізацыямі і аб'яднаннямі.

У прыватнасці, так і застаўся нявыкананым пункт пастановы аб тым, што "...увекавечанне памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў праводзіцца спецыяльнымі воінскімі падраздзяленнямі з удзелам грамадскіх пошукавых аб'яднанняў". Ужо змянілася кіраўніцтва дзяржавы, а спецыяльныя воінскія падраздзяленні ў рэспубліцы так і не створаны. У той час, калі сотні ваеннаслужачых заняты на сельскагаспадарчых і іншых "неўласцівых" Узброеным Сілам работах, у дзяржавы не хапіла магчымасці, а хутчэй за ўсё жадання вырашыць гэтую вельмі важную праблему. Нашы кіраўнікі многа гавораць аб маралі, але забываюць простую ісціну, што вайна не закончана, пакуль не пахаваны апошні салдат.

Нельга забываць, што месцы баёў нашпігаваны выбуханебяспечнымі прадметамі, якія нясуць у сабе смяротэльную небяспеку, перш за ўсё для тых, хто спрабуе праводзіць на грамадскіх пачатках пошукавую работу.

Да 1993 года асобнымі пошукавымі аб'яднаннямі на тэрыторыі рэспублікі пры раскопках месцаў баёў было выяўлена больш за 10 тысяч выбуханебяспечных прадметаў. Пры правядзенні не так даўно суцэльнага размініравання ў Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці ваеннаслужачымі беларускай арміі было знойдзена і абясшкоджана 50 526 выбуханебяспечных прадметаў. І гэта толькі на тэрыторыі аднаго раёна!

Але ж разам з тымі, хто шукае, з'явіліся і "трафейшчыкі". Яны, у адрозненне ад сапраўдных, аснашчаны самымі сучаснымі прыборамі заходняй вытворчасці, што дазваляюць практычна беспамылкова на глыбіні да 3--4 метраў вызначаць прадметы, якія цікавяць іх. Гутарка ідзе перш за ўсё аб зброі, боепрыпасах, выбуховых рэчывах, якія цяпер карыстаюцца павышаным попытам у пэўных асобаў. Пры раскопках нямецкіх пахаванняў яны шукаюць залатыя рэчы, якія акупанты забіралі ў мясцовага насельніцтва і прыгавораных да расстрэлу, а таксама жэтоны нямецкіх салдат, якія потым прадаюць за валюту грамадзянам ФРГ.

Пры правядзенні раскопак існуе і іншая небяспека -- інфекцыйная. Але ніхто не можа спыніць аматараў лёгкай нажывы, ды ніхто і не спрабуе гэта рабіць.

ПРАЙШЛІ дзесяцігоддзі, але літаральна да нядаўняга часу ні ў адной крыніцы мы не маглі знайсці звестак аб нашых стратах у гады Вялікай Айчыннай вайны. На жаль, на гэтае пытанне няма дакладнага адказу і сёння. Хаця нас спрабавалі і спрабуюць пераканаць, што ўлік вёўся дакладна і заўсёды.

Сапраўды, 15 сакавіка 1941 года напярэдадні вайны нарком абароны СССР падпісаў загад, які ўводзіў у дзеянне Палажэнне "Аб персанальным уліку страт і пахаванні загінуўшага асабовага саставу Чырвонай Арміі ў ваенны час". На гэтым загадзе да сёння стаіць грыф "Совершенно секретно. Не подлежит оглашению". На падставе гэтага загада да 1 мая 1941 года ўвесь асабовы састаў Чырвонай Арміі атрымаў медальёны з укладнымі лісткамі з кароткімі біяграфічнымі данымі і месцам жыхарства родных. (Гэта, бадай, адзінае мерапрыемтва, якое было выканана ў поўным аб'ёме да пачатку вайны. -- **І.К.**).

Укладыш медальёна запаўняўся ў двух экземплярах. Адзін у выпадку гібелі яго ўладальніка вымаўся і захоўваўся ў штабе часці ці лячэбнай установе, а другі экземпляр, укладзены ў медальён, заставаўся пры забітым ці памершым ад ран.

Адсюль вынікае, што выяўленне на месцах баёў медальёнаў з адным укладышам сведчыць аб тым, што данае пахаванне не з'яўляецца безыменным.

Мала таго, пахаванні загінуўшых на полі боя праводзіліся не стыхійна (выключэннем з'яўляецца пачатковы перыяд вайны, пра што ішла размова вышэй. -- І.К.), а ў пэўным парадку, які зноў-такі рэгуляваўся раздзелам пятым гэтага Палажэння.

У прыватнасці, для збору трупаў загінуўшых у месцах баёў распараджэннем камандзіра палка прызначалася спецыяльная каманда (яе часта называюць "пахавальнай". -- **І.К.**), у абавязкі якой уваходзіла:

-- пошук трупаў;

-- рэгістрацыя (па ўкладных лістках медалёнаў) загінуўшых;

-- збор і дастаўка іх на дывізіённыя пункты пахавання.

Пасля заканчэння збору трупаў старшы каманды прадстаўляў у двух экземплярах спіс начальніку штаба палка з указаннем месца знаходжання іх. Да спіса прыкладвалася дакладная схема размяшчэння магілы. Пахаванне трупаў праводзілася **толькі ў маштабе дывізіі (брыгады)** у брацкіх магілах. Згодна з патрабаваннем адпаведных дакументаў магілы капаліся на глыбіню да паўтара метра і зверху насыпалася зямля вышынёй да паўметра, усё пакрывалася дзёрнам ці каменем. На паверхні магілы ўстанаўлівалася піраміда, зробленая з дошак ці каменя, на якой выпальваўся ці пісаўся нумар магілы.

Трупы начальніцкага саставу ад камандзіра палка і вышэй хаваліся ў драўляных трунах. А астатняга афіцэрскага саставу -- у асобных магілах.

Акрамя таго, у кнізе пахавання супраць кожнага прозвішча дакладна вызначалася месца знаходжання трупа ў магіле, упісваўся парадкавы нумар магілы і дакладна ўказвалася на тапаграфічнай карце буйнога маштаба яе размяшчэнне. Адкрыўшы такую кнігу, і сёння можна прачытаць не толькі дзе знаходзіцца магіла, але і нават размяшчэнне ў ёй астанкаў загінуўшага. Адзін экземпляр карты з абазначэннем магілы высылаўся ва Упраўленне па ўкамплектаванню войск Генеральнага штаба Чырвонай Арміі разам са спісам загінуўшых.

З НАЧЫЦЬ улік усё-такі меўся, і можна з упэўненасцю сказаць, што сістэматычна ён вёўся толькі з лета 1943 года, калі нашы войскі перайшлі да наступальных дзеянняў. Можна сцвярджаць, што калі пахаванне не парушана, то і сёння можна дакладна вызначыць яго месца.

Але калі ўлічыць, што месцы баёў 1941 года часта супадалі з месцамі баёў 1944 года, то значыць гэтыя пахаванні знаходзяцца побач.

Многа такіх жалобных месцаў знаходзіцца ў раёне наступных гарадоў і населеных пунктаў: Оршы, Віцебска, Гарадка, Лепеля, Крычава, Клімавіч, Магілёва, Жлобіна, Рагачова, Бабруйска, Асіповіч, Гомеля, Рэчыцы, Жыткавіч, Мінска, Стоўбцаў, Навагрудка, Слоніма, Ваўкавыска, Пружан, Кобрына, Гродна, Брэста і іншых.

У 50--70-х гадах па ўказанню адпаведных партыйных і савецкіх органаў, якім здавалася, што наяўнасць такой вялікай колькасці пахаванняў можа навесці на думку -- а чаму столькі нашых салдат загінула ў баях -- пачалася кампанія (як правіла, да чарговага юбілею) па звядзенню асобных пахаванняў у брацкія магілы. У выніку гэтай акцыі парушалася размяшчэнне магіл, і сёння ўжо немагчыма ідэнтыфікаваць астанкі загінуўшых.

Напрыклад, на тэрыторыі Кастрычніцкага сельсавета Віцебскай вобласці ў тыя гады было перанесена звыш 50 брацкіх магіл, многія з якіх з'яўляліся дывізіённымі могілкамі.

Для ўпарадкавання аховы месцаў пахаванняў пастановай Савета Міністраў Беларусі ад 21 снежня 1992 года было вызначана, што ўсе віды работ, якія могуць стварыць пагрозу для воінскіх пахаванняў, -- забаронены. Што ж адбываецца на самай справе? Карты з дакладнымі каардынатамі месцаў пахаванняў знаходзяцца на захоўванні ў Цэнтральным архіве Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі ў горадзе Падольску. У сувязі з адсутнасцю іх у Беларусі адбываюцца выпадкі часам міжвольнага раскрыцця пахаванняў у выніку правядзення сельскагаспадарчых, будаўнічых і іншых відаў работ. Выйсце з гэтага становішча адно -- вырашыць гэтае пытанне на міждзяржаўным узроўні.

Да таго ж у гэтым жа архіве маюцца звесткі больш чым аб 15 мільёнах загінуўшых. Гэтыя даныя маюць магчымасць сваякам загінуўшых упершыню за многія гады даведацца пра дакладнае месца пахавання іх блізкіх.

Многа для пастаноўкі гэтых і іншых праблем зрабілі і працягваюць рабіць сёння актывісты пошукавага руху мінчане Н. Трабянок і В. Лунёў. Але, безумоўна, два чалавекі не ў стане вырашыць гэтыя набалелыя праблемы.

За апошнія пяць гадоў членамі грамадскіх пошукавых груп, атрадаў і аб'яднанняў пры раскопках былі знойдзены астанкі больш чым трох тысяч загінуўшых воінаў. Многа гэта ці мала? Для грамадскіх работ, вядома, многа, ды яшчэ трэба ўлічыць, з якой рызыкай звязаны гэтыя работы. Але калі ўлічыць, што многія пахаванні перыяду 1941 года да сёння з'яўляюцца безыменнымі і ў іх, па самых прыблізных падліках, могуць знаходзіцца астанкі звыш 500 тысяч нашых воінаў, то гэта з'яўляецца кропляй у моры.

Нельга забываць і пра тое, што з гэтых трох тысяч большасць была ўлічана, а ў выніку раскрыцця пахаванні знішчаюцца, астанкі абязлічваюцца і звозяцца ў кучу для чарговага перазахавання. У выніку гэтага сувязь з архіўнымі дакументамі, што фіксуюць імёны загінуўшых і месцы іх пахавання, назаўсёды страчваецца...

Блізіцца 50-годдзе Вялікай Перамогі. У сродках масавай інфармацыі з'яўляюцца і з'явіцца яшчэ не адна публікацыя аб неабходнасці аддаць даніну памяці загінуўшым у гады гэтай страшнай вайны. Ці пойдзе справа далей слоў?

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

Сам Чайка на допыце сведчыў, што меў мэту папярэдзіць Кецка аб велізарнай колькасці дэзерціраў з Бабруйскага, Слуцкага паветаў, якія цэлымі натоўпамі ўліваліся ў паўстанцкую брыгаду. Галоўную прычыну гэтай з'явы Чайка бачыў у пагрозах арыштаў і расстрэлаў, якіх не шкадавалі чырвоныя камандзіры. І ён параіў былому сябру не пужаць людзей і не рыхтаваць, такім чынам, шматлікія ахвяры. У шчаслівы вынік падзей, як баявы афіцэр, франтавік, не верыў.

Чайка быў расчараваны засіллем балахоўцаў у паўстанцкім штабе і палітычнымі гульнямі кіраўнікоў, прасіў у сябра парады і дапамогі. Такім чынам выказаўся аб змесце злашчаснага ліста Уладзімір Пракулевіч, старшыня Слуцкай рады. "Я і Жаўрыд бачылі, як яго павялі ў контрразведку. Апошнія словы, якія мы пачулі, былі: "Жаўрыд, спасі мяне!". Арыштаваны разлічваў на дапамогу Паўла Жаўрыда, ён спадзяваўся, што камісар Найвышэйшай Рады справядліва разбярэцца ў яго канфлікце з контрразведкай, гэтым неафіцыйным штабам Булак-Балаховіча ў Слуцку. Справа ў тым, што дзякуючы намаганням эсэраўскай часткі Рады Чайка атрымаў пасаду камандзіра Слуцкага палка насуперак жаданню другога боку бачыць на гэтай пасадзе капітана А.Самусевіча. Дапамогі Чайка не дачакаўся. Жаўрыд у дзень арышту ад'ехаў у Варшаву па грошы. Пракулевіч, назіраючы ўзмацненне балахоўцаў, сабраў аднадумцаў на тайны сход. Пакуль абмяркоўвалі невыносны стан расколу і шляхі выйсця, Чайка пасля пяці дзён арышту, у ноч з 2 на 3 снежня 1920 года, уцёк, дарэчы, з дапамогай афіцэра контрразведкі Міронччыка, які паспачуваў былому камандзіру.

Трэба зазначыць, што ў Асобы аддзел ВЧК пры 16-й арміі Чайка трапіў 12 снежня, дзе быў дзесяць дзён, што рабіў, на якім баку шукаў прытулку, невядома. І яшчэ адна акалічнасць -- справа па абвінавачванню асабістамі распачата толькі 27 снежня. Пятнаццаць дзён на яго не звярталі ўвагі. Цікава, чаму? Можа не ведалі, хто трапіў да іх? Пытанне пакуль застаецца.

Тым часам выпадак з Чайкам дапамог эсэрам перахапіць ініцыятыву. На сходзе па прапанове Пракулевіча вырашылі арыштаваць і судзіць камандзіра брыгады Анцыповіча, начальніка разведкі Мірановіча і яго памочніка Рэута. Першага за тое, што "не мог трымаць лінію Рады". Фармальнай зачэпкай для арышту двух іншых быў праступак Чайкі. Сход пастанавіў прызначыць на пасаду камандзіра брыгады Антона Сокал-Кутылоўскага. Контрразведку ўзначаліў афіцэр Беларускай Вайсковай камісіі Янушэнка. 3 снежня правялі арышты, на наступны дзень судзілі. Анцыповіча разжалавалі ў шэраговыя, Міронччыка і Рэута знялі з пасады. Дарэчы, апошні таксама хутка трапіў у ЧК і быў расстраляны. Паўлюкевіч і Мацелі вымушаны былі падпарадкавацца Радзе. Тым больш, што Пракулевіч, каб мець узброеную падтрымку, аддаў загад камандзіру батальёна А.Каўпаку зняцца з пазіцыі і з атрадам 80 чалавек прыбыць у Семежава, дзе праходзілі разборкі з балахоўцамі. І гэта ў той час, калі праціўнік браў верх. 7 снежня паўстанцы вымушаны былі пакінуць Семежава.

Гісторыя здрады Паўла Чайкі -- гэта толькі вонкавы бок падзеі. Няхай ускосна, але ў першую чаргу здрада хавалася ў бязглуздых амбіцыях і ўпартым нежаданні шукаць згоду, у непрадуманых паводзінах палітыкаў. Вялікі гістарычны ўрок тоіцца ў слуцкіх падзеях.

## З'ЕЗД СЛУЧЧЫНЫ

Нязгода паўплывала і на працу з'езда. Для падрыхтоўкі яго па вёсках раз'ехаліся інструктары. На месцах выбіралі дэлегатаў, высвятлялі настрой насельніцтва. За тры дні да адкрыцця прадстаўнічага сходу вярнуліся інструктары. Яны засведчылі агульнае панаванне антысавецкіх настрояў і адначасова адсутнасць выразнай цягі да Польшчы. Людзі імкнуліся да дзяржаўнай самастойнасці.

Модус прадстаўніцтва на з'ездзе быў вызначаны наступным: па 5 чалавек ад 15 валасцей, па 2 -- ад культурна-асветніцкіх, эканамічных і іншых арганізацый, па 1 -- ад прафесійных груп настаўнікаў, юрыстаў, па 1 -- ад рэлігійных культаў: праваслаўнага, каталіцкага, іудзейскага. Усяго 115 чалавек.

На жаль, анкеты ўдзельнікамі з'езда не запаўняліся, таму прааналізаваць яго склад даволі цяжка. Але дакладна вядома, што выбіралі, як правіла, людзей пісьменных, аўтарытэтных, з ліку настаўнікаў, мясцовых чыноўнікаў, сялян, якія з вайны вярнуліся афіцэрамі. Ад Пукаўскай воласці, напрыклад, былі дэлегіраваны настаўнікі Пётр Бабарэка, Іван Калпак, Пётр Зянюк. Апошні, дарэчы, да прыходу палякаў быў старшынёю Пукаўскага валаснога выканкома.

Задача склікання з'езда была ў значнай меры аблегчана папярэдняй арганізацыйнай работай Нацыянальнага камітэта. Замест прызначаных польскай адміністрацыяй войтаў у валасцях і солтысаў у вёсках былі абраны беларускія камітэты.

З заданнем арганізаваць дэмакратычныя выбары ў валасныя органы ўлады ад Нацкома на месцы выязджалі Васіль Русак, Васіль Цішкевіч, Уладзімір Грушэўскі. Улас Дубіна праводзіў сходы ў Цараўскай воласці, Пагосце, Старобіне, Мелкавічах. Сяляне выбіралі сваіх прадстаўнікоў у мясцовыя камітэты, выказвалі словы падтрымкі ў адказ на заклікі ствараць уласную армію для абароны Бацькаўшчыны. Грамадзянскую ўладу ў Грозаўскай, Цімкавіцкай, Пукаўскай, Грэскай і Вызненскай валасцях дапамагаў ствараць Пётр Бабарэка са сваімі паплечнікамі.

Як правіла, тыя, каго выбіралі ў мясцовыя органы кіравання, адначасова былі дэлегіраваны на павятовы з'езд.

Польскія ўлады не пярэчылі скліканню з'езда Случчыны, таму што канчаткова мір з савецкай Расіяй яшчэ не быў падпісаны і ў Рызе працягваліся мірныя перамовы. Выступленні супраць Саветаў былі на карысць Польшчы.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 50—52 (1994 г.), №1,2.**



**Зімовая раніца.** **Фота Г.АЛЯКСАНДРАВА.**

*ГЭЙ, НАВАГРАДЦЫ!*

# ЦІ НЕ ЧАС САБРАЦЦА РАЗАМ

У адной надзвычай цікавай кнізе пад назвай "Эмансіпацыя свіцязянкі і іншыя шаленствы", якая выйшла ў свет у Наваградку ў 1934 годзе, ёсць такі анекдот. Калі ў якім-небудзь бязлюдным месцы, напрыклад, на бязлюдным востраве, апынецца адзін парыжанін, народзіцца песня, двое -- дуэт, трое -- кабарэ; адзін жыхар Лондана -- сплін, двое -- гольфавы клуб, трое -- англійская калонія; адзін жыхар Наваградка -- могілкі, двое -- плётка, трое -- усё магчымае і немагчымае на свеце.

Так лічылі ў 30-я гады, калі Наваградак быў не толькі адміністрацыйным цэнтрам ваяводства, але і асяродкам культурнага жыцця цэлага рэгіёна, калі зімой сюды з'язджаліся на балі і карнавалы, а летам цэнтр жыцця перамяшчаўся на Свіцязь. З таго часу шмат што змянілася ў абліччы горада і краю, але, нягледзячы ні на што, захавалася яго адметнасць. Па-ранейшаму велічныя руіны старажытнага замка дамінуюць над маляўніча раскінутым па пагорках горадам, выпраменьваючы ў наваколле назапашаную стагоддзямі энергію. Тут пануе асаблівая атмасфера разважлівасці і спакою.

Што ж датычыць жыхароў, то сапраўдныя наваградцы, як і шмат гадоў назад, -- людзі, моцныя духам, гатовыя змагацца з цяжкасцямі і нягодамі і берагчы тое, што засталося ім у спадчыну. Яны з гонарам называюць сябе наваградцамі, дзе б ні жылі, носячы ў сэрцах вялікае пачуццё любові і ўдзячнасці (а часам болю і тугі) да сваёй радзімы.

А Наваградчыне сёння, можа, як ніколі, патрэбна ўвага і дапамога неабыякавых да гэтай зямлі людзей. Сам Наваградак сутыкнуўся з пагрозай разбурэння сваёй галоўнай каштоўнасці -- таго, што засталося ад некалі магутнага наваградскага замка. Яго велічныя руіны, асабліва Касцельная вежа, могуць не вытрымаць нават гэтай зімы.

Як часта мы шкадуем, што наш замак ужо не такі, як на малюнках Н.Орды і Ю.Пешкі, што няма той Наваградчыны, якая паўстае са старонак кнігі Р.Афтаназі "Гісторыя ўладанняў. Наваградскае ваяводства". Нават той Наваградак, які бачым у фільме "Наваградак 1931 года", на вялікі жаль, знік назаўсёды. Многія пабудовы зніклі па волі людзей і часу, але перш за ўсё таму, што ніхто не паклапаціўся, каб іх захаваць. Ніхто не дбаў пра тое, што, страчваючы кожную адметную рысу мінулага, Наваградчына губляла адзін за другім шансы на будучыню. Разбураўся замак, знішчалася яго аўра і той энергетычны патэнцыял, які падсвядома ўздзейнічае на людзей і робіць іх менавіта наваградцамі. Тое ж самае адбывалася і са шматлікімі асяродкамі культуры, якімі былі Шчорсы, Вераскава, Адампаль, Любча, Нянькава і яшчэ цэлы шэраг маёнткаў і фальваркаў, якія не толькі ўпрыгожвалі гэту зямлю сваёй архітэктурай, але і стваралі ўмовы для развіцця гаспадаркі, навукі, мастацтва.

Зараз ад іх засталіся руіны, рэшткі некалі прыгожых паркаў, і мы можам быць апошнімі, хто дакранаецца да гэтай жывой і жыватворнай гісторыі. Хіба мы не нясем за гэта адказнасць?

Гэтым праблемам і цэламу шэрагу іншых, звязаных з гісторыяй Наваградчаны, экалогіяй, эканомікай, перспектывамі на будучыню ў галіне турызму будзе прысвечаны першы з'езд Згуртавання наваградцаў свету, правядзенне якога плануецца на сярэдзіну чэрвеня гэтага года. Наогул 1995-ты павінен стаць адметным для наваградцаў: спаўняецца 950 гадоў ад першага летапіснага ўпамінання аб Наваградку, а таксама 400 гадоў надання гораду герба, святкуе сваё 600-годдзе Мір -- бліжэйшы сусед у ланцугу гістарычных мясцін Наваградак--Мір--Нясвіж.

Ці не час сабрацца разам, каб падыхаць гаючым, вольным ветрам, які прыносіць успаміны дзяцінства, адчуць, як маладзее душа і цела ад свіцязанскай вады, як абуджаюцца лепшыя пачуцці і думкі, і разам паспрабаваць дапамагчы гэтай цудоўнай зямлі.

Заяўкі на ўдзел у рабоце першага з'езда ЗНС і прапановы ў яго праграму просім дасылаць на адрас:

**231400, Беларусь,**
**г. Наваградак,**
**вул. Гродзенская, 2.**
**Гісторыка-краязнаўчы музей.**

**Тамара ВЯРШЫЦКАЯ,**
**старшыня Управы ЗНС.**

*Старшыня згуртавання беларусаў Львова Б.Цімошчанка прапанаваў "Голасу Радзімы" свой артыкул, напісаны ім для першага нумару газеты "Беларус Галічыны". Друкуем яго ў скарачэнні.*

# ГАДЫ ПРАЦЫ І СПАДЗЯВАННЯЎ

Нарадзілася згуртаванне беларусаў Львова амаль што на пустой ніве. Аніякіх слядоў больш-менш арганізаванага існавання беларусаў знайсці не ўдалося, хаця вядома, што яны на Галічыне жылі спрадвечна. Шляхі нашых знакамітых землякоў не раз праходзілі цераз Львоў і ўнеслі ці малы ўклад у развіццё агульнаславянскай культуры. Дастаткова ўпамянуць імёны Ф. Скарыны, І. Хведарава, А. Міцкевіча, Т. Касцюшкі, М. Агінскага, Алаізы Пашкевіч (Цётка), каб мець усе падставы на легітымнасць нашага існавання тут.

І так, што ж удалося зрабіць за гэтыя два гады на шляху адраджэння нашай беларускасці?

Згуртаванне мае каля чатырохсот больш-менш актыўных сяброў таварыства. За гэты час праведзена некалькі агульных мерапрыемстваў. (У тым ліку, урачыстыя вечарыны, прысвечаныя 100-годдзю М. Гарэцкага, 75 угодкам абвяшчэння БНР).

Другі год выходзіць у эфір наша беларускамоўная радыёпраграма "Весткі з Беларусі", а ў розных перыядычных выданнях Украіны і Беларусі надрукавана каля 10 артыкулаў аб нашым жыцці і нашых праблемах. Арганізавана таксама некалькі тэматычных выставак беларускай літаратуры, беларускіх народных майстроў.

Пералік гэты можна прадоўжыць, але мы не задаволены зробленым, таму што зрабіць можна было больш, калі б... Ці можна паставіць пытанне інакш: чаму не зроблена тое, што планавалася, аб чым марылася? Прычыны, на наш погляд, відавочныя: без дзяржаўнай падтрымкі наша справа малаперспектыўная, і не мае шансаў на поспех. Энтузіязм па-бальшавіцку сваё адпрацаваў.

Паўстае пытанне, а само нацыянальнае адраджэнне, каму яно патрэбна?

І яшчэ адзін бок гэтага пытання. Беларусы надзвычай мяккая нацыя, і таму асімілююцца вельмі лёгка, асабліва ў блізкія па крыві, больш моцныя нацыі Расіі і Украіны. Нацыянальная самасвядомасць толькі пачынае прачынацца. Што ж трэба рабіць?

Па-першае, не губляць надзеі, па-другое, турбавацца і стукацца да сэрцаў уладаў Украіны і Беларусі з надзеяй на тое, што там знойдуцца людзі, якія зразумеюць наш боль. Бо беднасць не прычына для абыякавасці. Па-трэцяе, аб'ядноўваць і гуртаваць неабыякавых да долі Бацькаўшчыны беларусаў, якіх на Украіне амаль што паўмільёна. Усяляк садзейнічаць адраджэнню любых парасткаў беларускасці, тым больш, што ні ў аднаго народа свету, у тым ліку ўкраінцаў, не можа ўзнікнуць падазрэнне аб нашым нацыяналізме ці шавінізме, бо больш прыгнечанага народа, чым мы, у свеце няма.

А спраў у галіне адраджэння Беларусі вельмі шмат. Адной з найпершых нема крычыць і просіць дапамогі наша родная мова. Яна зараз быццам малое зубраня, вось-вось будзе занесена ў Чырвоную кнігу. І мы павінны абараніць яе, каб яна заняла сваё пачэснае месца сярод магутных моў Еўропы.

**Барыс ЦІМОШЧАНКА.**

г. Львоў.

**297**

З 1930 года, у адпаведнасці з запытам Дзяржплана СССР, АДПУ і Наркамата ўнутраных спраў (НКУС), даводзілі разнарадкі па раёнах на ворагаў народа і шкоднікаў, якія потым узводзілі Магнітку, Камсамольск-на-Амуры, Волга-Данскі канал. За першую пяцігодку (1928/29--1932/33) з БССР планавалася выселіць 300 тысяч вяскоўцаў. Зразумела, што добраахвотна такая маса людзей перасяліцца не магла... Такім чынам, нармальныя эканамічныя рычагі для бальшавіцкага эксперыменту не падыходзілі, і яны былі адкінуты. Эканамічны скачок ажыццяўляўся фашысцка-бальшавіцкімі метадамі.

**ЯК ЖА ПРАХОДЗІЛА ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ!** 90 працэнтаў яе насельніцтва займалася ў 1926 годзе сельскай гаспадаркай (па СССР -- 80 працэнтаў). Прамтавараў не хапала. У канцы 20-х гадоў у гарадах БССР налічвалася каля 33 тысяч беспрацоўных. Беларуская вёска мела каля 600 тысяч лішніх рук. Індустрыялізацыя патрабавалася і беларускаму народу. Але яе распачыналі захопнікі, не ашчаджаючы ні прыродныя, ні людскія рэсурсы. Захопнікі не маглі шкадаваць нічога. Да пачатку 30-х гадоў Масква зацвердзіла за сабой права на ўстанаўленне фактычна ўсіх асноўных планавых паказчыкаў для мясцовай прамысловасці. А за іх невыкананне можна было страціць і пасаду, і партыйны білет. Аднак заданні першай пяцігодкі прамысловасць Беларусі так і не выканала. Праўда, яны былі нерэалістычнымі. Не ўдалося правесці і рэканструкцыю чыгуначнага транспарту.

**298**

Гэта не азначала, аднак, што эканоміка стаяла на месцы. Асноўная ўвага звярталася на развіццё традыцыйных лёгкай і харчовай прамысловасці. Узнаўлялася машынабудаванне. У 1928 годзе першыя беларускія станкі выпусціў мінскі завод "Энергія". Наладзілася вытворчасць штучных валокнаў (Магілёў) і трыкатажу (віцебская фабрыка КІМ). Запрацаваў Гомсельмаш. Індустрыя яшчэ не паспела раздушыць саматужна-рамесную вытворчасць і пераарыентаваць прамысловасць на выпуск сродкаў вытворчасці. Яўрэйскія рамеснікі, як і сяляне, зганяліся ў кааператывы. Прыватнаму прадпрымальніцтву ходу не было -- і яўрэі шукалі шчасце ў Крыме і Бірабіджане.

У другой пяцігодцы (1933--1937) тэмпы індустрыялізацыі Беларусі запаволіліся. Экстэнсіўныя метады вычарпалі сябе. З дапамогай непісьменных, толькі што адарваных ад зямлі сялян можна было будаваць заводскія карпусы, але не наладжваць у іх вытворчасць. Нізкая кваліфікацыя рабочых стрымлівала асваенне прамысловых магутнасцяў. Паломкі і прастоі новай тэхнікі былі звычайнай з'явай. Матэрыяльных стымулаў да працы не існавала. На прадпрыемствах віселі заклікі і хадзілі наглядчыкі. Правалы ў прамысловасці спісваліся на "дыверсантаў імперыялізму" і "шкоднікаў", якіх выкрывалі і судзілі.

К канцу другой пяцігодкі прамысловасць БССР выпускала фанеру (29 працэнтаў саюзнай прадукцыі), аліфу (30 працэнтаў), дрожджы (25 працэнтаў), запалкі (28 працэнтаў), спірт, металарэжучыя станкі і розныя металавырабы,

**299**

паперу, цэмент (Крычаў), ільновалакно (Аршанскі льнозавод), трыкатажныя вырабы, абутак. Узрастала залежнасць мясцовых прадпрыемстваў ад прывазнога расійскага паліва і металаў. Але прамысловасць працавала яшчэ для людскіх патрэб, а не для вайны. Блізкасць мяжы з Польскай дзяржавай стрымлівала будаўніцтва тут прадпрыемстваў ваеннага значэння.

**ЭКАНАМІЧНАЕ СТАНОВІШЧА ГАРАДЖАН.** У 1931 годзе разам з біржамі працы зніклі і беспрацоўныя. Прамысловасць развівалася шляхам экстэнсіфікацыі: у вытворчасць уцягваліся ўсё новыя і новыя матэрыяльныя і працоўныя рэсурсы. Складваўся савецкі стыль арганізацыі працы -- вытворчасць дзеля вытворчасці. Адзін цэх мог вырабляць дэталі, непатрэбныя для другога, а патрэбных не хапала. Штурмаўшчына, сацыялістычнае спаборніцтва выціскалі з рабочых апошнія жыццёвыя сокі. Работы ўсім хапала, але заробкі былі мізэрныя, іх выдача часта затрымлівалася. Для папаўнення дзяржаўнай казны рэзка павялічваўся выпуск папяровых грошай. За першую пяцігодку вартасць рубля паменшылася прыкладна на 40 працэнтаў. Чырвонец перастаў канверсавацца. Узраслі цэны. Нязіралася ўсеагульная незадаволенасць савецкай уладай і камуністамі, якія толькі і рабілі, што заклікалі працоўных пацярпець дзеля перамогі сусветнай пралетарскай рэвалюцыі. Вось якое выказванне аднаго з мінскіх рабочых запісалі даносчыкі НКУС пасля разгорнутай у 1932 годзе барацьбы з прагуламі: "Няхай замежныя рабочыя самі робяць рэвалюцыі. Мы на іх працаваць не хочам. За

**300**

бясцэнь працаваць нельга. Хлеба не даюць, прагуляць не даюць -- з Чырвонай Арміяй ваяваць трэба".

У 1932 годзе гарады не забяспечваліся нават хлебам. У Барысаве натоўп галодных разрабаваў хлебную краму (8 красавіка), у Віцебску адбылася дэманстрацыя галоднай чаргі, якая не дачакалася прадуктаў (26 мая). Рабочы віцебскай фабрыкі "Сцяг" індустрыялізацыі" ў час лекцыі аб прафілактыцы летніх паносаў пачаў крычаць: "Вы нас спачатку накарміце!" Пашыраліся чуткі пра вайну. Людзі спадзяваліся, што яна збавіць іх ад савецкай улады. Яны былі ўпэўнены, што такая звярыная ўлада доўга не пратрымаецца.

Жыццё гараджан не вызначалася камфортам. Нават у некаторых буйных гарадах адсутнічалі водаправод і каналізацыя, з-за недахопу электраэнергіі часта гасла святло. Аўтатранспарт знаходзіўся ў першапачатковым стане. Трамвай меўся толькі ў Віцебску і Мінску. Жылля катастрафічна не хапала. У 1938 годзе ў Мінску з-за недахопу будаўнічых матэрыялаў было ўведзена ў эксплуатацыю ўсяго 20 кватэр. Усе лепшыя будынкі забіраліся вайскоўцамі: у беларускіх гарадах размяшчаліся вялікія ваенныя гарнізоны. Тавараў не хапала. У сакавіку 1937 года Саўнарком БССР прыняў спецыяльную пастанову аб мерах барацьбы з чэргамі за бульбай. У продаж паступалі патэфоны, швейныя машыны, веласіпеды, матацыклы, цэны на якія не кожнаму былі па кішэні. У 1938 годзе ў шэрагу раённых цэнтраў бальшавікі правялі кірмашы. Па прамысловыя тавары выстрой-

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

**301**

валіся чэргі па 600—700 чалавек. У Сянне адна жанчына пасля бойкі і цiскатні засталася без сукенкі -- усю парвалі. У Лагойску дзвюх калгасніц, вырашыўшых прыбрацца, з чаргі адвезлі ў бальніцу.

Праўда, па сведчанні беларускага паэта С.Грахоўскага, пасля адмены ў 1934 годзе картачнай сістэмы ў Мінску ў продажы з'явіліся дзесяткі гатункаў каўбас, ікра стаяла бочкамі. І так было да 1939 года. Але гэта толькі сведчыла аб рабаванні горадам вёскі. Харчовыя тавары прызначаліся для забяспечаных гараджан. Вяскоўцы не былі іх пакупнікамі, бо не мелі грошай.

Бічом буйных гарадоў стала дзіцячая беспрытульнасць. Дзеці раскулачаных, рэпрэсіраваных і збяднелых бацькоў туляліся па гарадскіх вуліцах, кралі, хуліганілі, п'янствавалі. Іх зганялі ў дзіцячыя прытулкі, дзе ўсё раскрадалася, і, галодныя, брудныя і раздзетыя, яны зноў уцякалі. У 1934 годзе бальшавікі правялі генеральную аблаву, якая выявіла ў Беларусі каля 7 тысяч бяздомных дзяцей.

**ШТО АЗНАЧАЎ ЭКАНАМІЧНЫ СКАЧОК ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ.** Індустрыялізацыя служыла для Масквы сродкам падпарадкавання беларускіх зямель, якія эканамічна прывязваліся да расійскай бальшавіцкай гаспадаркі. Яна аплачвалася неверагоднымі ахвярамі. Рэзка пагоршылася эканамічнае становішча беларускага насельніцтва. За 1928--1940 гады індэкс рознічных цэн узрос у БССР у 6,3 раза. Пакупная ж здольнасць рубля знізілася за гэты час на 60 працэнтаў. Картачная сістэма забяспечвала

**302**

толькі мінімальны пражытачны ўзровень. Па меры набліжэння вайны расла інтэнсіфікацыя працы. На прамысловых прадпрыемствах уводзіўся казарменны парадак. Ужо ў 1938 годзе ў грамадстве назіралася трывога. Людзі забіралі грошы з ашчадных кас, назапашвалі газу, соль, цукар, мыла, запалкі.

Значыць, індустрыялізацыя Беларусі праводзілася бальшавікамі за кошт беларусаў, але не для беларусаў.

## 29.3. Запрыгоньванне сялян

**ПЕРАХОД ДА ПРЫМУСОВЫХ ХЛЕБАНАРЫХТОВАК.** Зімой 1927/28 года ў СССР выбухнуў хлебанарыхтоўчы крызіс. Экспарт хлеба прыпыніўся, грошы на індустрыялізацыю не паступалі. Справа ў тым, што цэны на збожжа не стымулявалі продаж хлебных лішкаў. Сялянам выгадней было займацца жывёлагадоўляй і вырошчваннем тэхнічных культур. Зноў, як у часы грамадзянскай вайны, пачалася харчразвёрстка, забарона вольнага гандлю, павальныя вобыскі, харчатрады, захопы зерня, арышты. У 1927/28 гаспадарчым годзе ў сялян Беларусі адабралі збожжа ў 3,5 раза болей, чым у папярэднім. У 1928/29 годзе цяжкасці з нарыхтоўкамі паўтарыліся. І зноў былі ўжыты надзвычайныя меры.

**ПЕРШАЯ СПРОБА СУЦЭЛЬНАЙ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ.** Сталінскае кіраўніцтва вырашыла фарсіраваць калектывізацыю сялянскіх гаспадарак, аб'яўленую яшчэ ў 1927 годзе. Гэта даз-

**303**

валяла пазбавіць сялян гаспадарчай самастойнасці і ператварыць іх у паслухмяных дзяржаве рабоў. Выконваючы загад Масквы, студзеньскі (1930 года) Пленум ЦК КП(б)Б прыняў абавязацельства завяршыць суцэльную калектывізацыю да 1931 года. У вёску накіроўваліся тысячы ўпаўнаважаных, на гарадскіх прадпрыемствах ствараліся спецыяльныя брыгады дапамогі калектывізацыі. За тры месяцы, да 1 сакавіка 1930 года, бальшавікі Беларусі загналі ў калгасы больш 430 тысяч сялянскіх гаспадароў. Працэнт калектывізаваных двароў узрос амаль у 10 разоў -- да 58. Праводзілася суцэльнае абагуленне хатняй жывёлы, птушак, дробных прылад працы. Сяляне, якія не жадалі ўступаць у калгасы, аб'яўляліся класавымі ворагамі, агентамі кулакоў, падкулачнікамі. Мясцовая бальшавіцкія паслугачы арыштоўвалі непаслухмяных вяскоўцаў, рабавалі іх маёмасць, а саміх высылалі з родных месцаў. Не было літасці і да ўчарашніх чырвонаармейцаў.

**АНТЫКАЛГАСНЫЯ ПАЎСТАННІ.** Сяляне адказвалі антысавецкімі ўзброенымі выступленнямі. Са студзеня па сярэдзіну красавіка 1930 года такіх выступленняў адбылося ў БССР больш 500. Паўстанцы грамілі калгасы і разбіралі сваё абагуленае дабро, забівалі камуністаў, іх памагатых, абаранялі ад гвалту так званых кулакоў. Як і ў часы царызму, міліцыя разганяла натоўпы сялян з дапамогай зброі (в.Сойна Сенненскага раёна). Жывёла масава вынішчалася, а збожжа малолася, каб нічога не дасталася калгасам. У Гарадоцкім раёне Віцебскай акругі паўстанцы насілі белы сцяг з надпісам: "Няхай жыве Пілсудскі!" 2 сакавіка

**304**

1930 года Сталін вымушаны быў прыпыніць празмерныя старанні сваіх сатрапаў, бо грамадзянская вайна ўжо займалася не толькі ў Беларусі. Адчуўшы паслабленне, калгаснікі Беларусі да жніўня 1930 года амаль поўнасцю разбегліся.

**ДРУГАЯ ХВАЛЯ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ.** Але паслабленне было нядоўгім. З 1931 года бальшавікі ўзнавілі калектывізацыю і праводзілі яе яшчэ больш жорсткімі метадамі. Усе, хто не жадаў уступаць у калгасы, падлягалі раскулачванню ці абкладаліся непамернымі падаткамі. Практычна гэта выглядала так. З раённага цэнтра прыязджаў упаўнаважаны, збіраў работнікаў сельсавета, бядняцкі актыў. Спешна складваўся спіс раскулачваемых, і пачынаўся гвалт. Тыя, хто аказваў супраціўленне, без суда і следства па рашэнню "троек" (першы сакратар райкома партыі, старшыня выканкома і начальнік ДПУ) адпраўляліся ў турмы ці расстрэльваліся. Заможных сялян разам з сем'ямі вывозілі на Урал, у Сібір і Казахстан. Бяднейшыя праціўнікі калгаснага жыцця пазбаўляліся надзелаў у калгасных вёсках і атрымлівалі новыя па-за іх межамі, але не заўсёды. Калі зямлі не хапала, дык гэтым небаракам даводзілася жыць пад адміністрацыйным наглядам у своеасаблівых канцлагерах. Такім вось шляхам бальшавікам зноў удалося да пачатку 1933 года загнаць у калгасы больш паловы сялянскіх гаспадароў. Колькасць раскулачаных сялянскіх двароў у асобных раёнах даходзіла да 10--15 працэнтаў, а месцамі і да 20 працэнтаў. З 800 тысяч сялянскіх гаспадарак Савецкай Беларусі было разбурана прыкладна 95,5 тысячы.

Аматары музычнага мастацтва Брэста адзначылі знамянальны юбілей -- 60-годдзе творчай дзейнасці кіраўніка народнага хору ветэранаў гарадскога Дома культуры, заслужанага артыста Беларусі Мікалая Шошчыца.

Харавымі спевамі ён пачаў займацца яшчэ ў даваенныя 30-я гады ў гімназічным хоры. Потым Мікалай Іосіфавіч закончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага універсітэта, дзе не пакідаў любімыя заняткі. Пазней былі і царкоўны хор, і оперная сцэна. Пасля другой сусветнай вайны кіраваў харавым калектывам Брэсцкай мэблевай фабрыкі і іншымі.

Музыка стала яго жыццём, і ў 35 гадоў Мікалай Іосіфавіч паступае ў Брэсцкае музычнае вучылішча. У далёкім ужо 1954 годзе ён арганізаваў харавую капэлу чыгуначнікаў, якая і цяпер адна з лепшых у рэспубліцы.

Выйшаўшы на пенсію, страсны музыкант стаў кіраўніком хору ветэранаў, дзе працуе і па сёння. Вялікая шматгадовая дружба звязвала Мікалая Шошчыца з вядомым беларускім музыкантам і дырыжорам Рыгорам Шырмай, шматлікія пісьмы якога ён захоўвае.

**Эдуард КАБЯК.**



НА ЗДЫМКУ: дырыжыруе Мікалай ШОШЧЫЦ.
Фота аўтара.

# САСНА КАРМІЛА, ЛІПА АДЗЯВАЛА

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Калі ён гэтак жа вывучыць і заходнія ўскраіны Расіі як Поўнач, Урал, Сібір і Далёкі Усход, Каўказ і Чарназем'е, то будзе мець маральнае права абагульніць свае назіранні над бытам народа, гаварыць не толькі аб асаблівасцях паасобных мясцовасцей, але і зрабіць вывады аб нацыянальным характары, аб заканамернасцях яго развіцця.

Падарожжа на Беларусь пачалося... Першыя артыкулы за подпісам "Проезжий" з'явіліся ў штодзённай газеце "Голас" ужо ў студзені 1868 года.

Максімава ўразіла беднасць сялян-беларусаў, страшэнная забітасць. Яе ён тлумачыў двайным ігам -- з боку польскай шляхты, што вякамі не лічыла беларуса за чалавека, і з боку мясцовых паноў. З горкай ironіяй Максімаў пісаў, што адзіны прыстойны прадукт на стале беларуса -- гэта сала, ды і то таму толькі, што свіння -- нячыстая жывёла ў разуменні іудаізму, і таму "выслізнула ад эксплуатацыі".

Спыняюць на сабе ўвагу і закранутыя Максімавым балючыя пытанні аб нацыянальным самаадняcенні мясцовых жыхароў. Даследчык заўважае, што яны і назваць сябе толкам не маглі: на пытанне аб нацыянальнай прыналежнасці заклапочана ссоўвалі на лоб "магерку" і, пачухаўшы патыліцу, адказвалі: ліцвін ці паляшук.

На Беларусі Максімаў упершыню ўбачыў хлеб, спечаны з прымешваннем кары, лебяды, мякіны, скібка яго здавалася комам бруду, што на разломе натапырваўся калючкамі, як вожык. "Эх вы, бедалагі, сасна вас корміць, ліпа адзявае", -- пісаў ён.

С. Максімаў не раз адзначаў абыякавасць беларусаў да пытанняў веры -- у параўнанні з карэннымі рускімі краямі. Таму перажыткі язычніцтва захаваліся на Беларусі ў найбольш яркай форме. Для этнографа гэта акалічнасць была самай прыцягальнай і адыграла не апошнюю ролю ў яго згодзе ўдзельнічаць у экспедыцыі. Назіранні над духоўным жыццём беларусаў у многім садзейнічалі яго далейшым абагульненням.

С.Максімаву належаць і унікальныя запісы аб пэўнай сацыяльнай падгрупе -- жабраках, бадзягах. На старонках яго асобнай кнігі "Бродячая Русь Христа ради" даволі часта сустракаюцца і беларусы. Аўтар падрабязна апісвае жыццёвы ўклад незвычайнай разнавіднасці бадзяг, што аселі ў Мсціславе Магілёўскай губерні, -- кубракоў. Кубракі, ходзячы па беларускіх і рускіх землях, ад хаты да хаты, збіралі сродкі "для пабудовы храма". Большая частка гэтых ахвяраванняў асядала ў іх кішэнях. Крывавыя капейкі шчырых беларусаў забяспечвалі прывольнае жыццё "прамысловым людзям". Тую ж крыніцу даходу асвоілі і ў Гродзенскай губерні, толькі тутэйшых зборшчыкаў "на Божы дом" называлі лабарамі, і яны хадзілі за тысячы вёрстаў з працягнутай рукой.

На жаль, паездка на Беларусь працягвалася толькі тры месяцы. Чакала сям'я, новая выгадная пасада ў Пецербургу. Нам засталіся яго пранікнёныя радкі: "Да здзіўлення старанны, цярплівы і працалюбівы народ -- беларусы сямі рускіх губерняў" (нам сёння цікава і абмежаванне этнічнай беларускай тэрыторыі --Віцебшчына, Міншчына, Магілёўшчына, Гродзеншчына, Пскоўшчына, Віленшчына, Смаленшчына). Па сведчанню біёграфа Максімава П.Быкава, падрыхтаваная да выдання кніга "На Захадзе (Беларусь)" так і не была апублікавана. Аднак для беларускага народазнаўства значную цікавасць уяўляюць і шматлікія, раскіданыя па розных выданнях звесткі аб духоўнай культуры.

Запісаў каляндарнай абраднасці беларусаў у С.Максімава не так ужо і многа, але амаль кожная з іх унікальная, не паўтораная яго сучаснікамі і сённяшнімі збіральнікамі. Аднак адзіная сэнсавая напоўненасць апісаных звычаяў, лагічнасць у структуры абраду, абраднасці, дакладнасць, завершанасць апісанняў не выклікаюць сумненняў у іх рэальным бытаванні. Сёння асобныя з рытуальных дэталяў, зафіксаваных С.Максімавым, фактычна запаўняюць лакуны ў стройнай сістэме календара беларусаў, з'яўляюцца каштоўнымі "рэальнымі" адпаведнікамі" ў тэарэтычных выкладках па праблемах духоўнай культуры беларусаў.

Хацелася б пераказаць найбольш цікавыя, практычна унікальныя ў айчыннай фалькларыстыцы запісы С.Максімава.

Звычайна даследчыкі ў апісаннях жніўных абрадаў мала ўвагі ўдзяляюць зажынкам, якія, фактычна, у згорнутым выглядзе прадстаўляюць, інсцэніруюць увесь ход жніва і дажынак ад самой працы да прыносу дадому сімвалу плёну -- снапа. "Калі наступае час жніва, адна з вясковых бабуль, лёгкая на руку, адпраўляецца на ніву ноччу і зжынае першы сноп. Звязаўшы яго, ставіць на зямлю і тры разы моліцца Параскеве Пятніцы, каб дапамагла рабам божым (памінае ўсіх жанчын вёскі, на якіх, па беларускаму гаспадарчаму звычаю, ляжыць абавязак жніва). Яна просіць аб сканчэнні жніва без скрухі і хвароб. Затым, крадучыся, нясе сноп у сваю хату. Усялякая сустрэча пры гэтым -- нядобры знак. ("Крылатые слова". По толкованию С.Максимова. Красноярск, 1989). Відавочна, у гэтым апісанні зашыфравана адна з цэнтральных ідэй жніўнай абраднасці -- зварот да продкаў з падзякай і просьбай аб апякунстве, а таксама добра адлюстравана арганічная спалучанасць традыцыйнай культуры беларусаў з хрысціянскім менталітэтам.

Адметнае і апісанне багатай, тлустай, куцці: на тлустую куццю старэйшы ў сям'і ў чорнай кашулі лезе на пячны слуп і з'ядае там цэлую каўбасу ў разліку на ўраджай жыта. Ізноў -- сёння зусім згубленае, але настолькі яскравае ў запісах С.Максімава рытуальнае звяртанне да продкаў за садзеяннем.

Як таленавіты даследчык, С.Максімаў не выпускаў з поля зроку і асобныя вераванні, уяўленні беларусаў, як, напрыклад, шанаванне імі пятніцы. Знаходзім у яго паведамленні і аб тым, што беларусы баяліся ратаваць вісельнікаў і нават не імкнуліся іх ажывіць, бо быццам бы тады ўсё жыццё ў час сну будзе праследаваць таемны голас: "Навошта ты яго ратаваў, навошта забраў ад нас" ("Крылатыя словы").

Аб энцыклапедычнасці апісання сялянскага быту, навуковай дакладнасці сведчаць і геаграфічныя спасылкі ў многіх аповядах. Так, нам цікава даведацца і суаднесці з апісаннямі беларускіх этнографаў звесткі аб культавых камянях, іконах, прошчах. С.Максімаў паведамляе аб камені з мястэчка Лукомль Сенненскага павета Магілёўскай губерні. ён зваўся "стапа", меў на сабе выяву крыжа і славянскі надпіс, які "з-за шчырасці прыхаджан", якія прыкладвалі да яго вусны, зусім сцёрся. У мястэчку Дзівін Гродзенскай губерні пакланяліся цудадзейнай іконе, якую не змаглі не тое што вынесці, але і скрануць з месца ў час пажару. Знаёмячы чытачоў з гістарычнымі і археалагічнымі адметнасцямі горада Мсціслава, аўтар пераказвае паданне аб Дзявочай гары, якую быццам бы нанасілі дзеўкі-асілкі, што засыпалі магілу волата, добрага малойца, усімі імі аплаканага. Потым на гэтай гары асілкі ў пэўныя дні ладзілі трызны і ігрышчы.

**Таццяна ВАЛОДЗІНА.**

(Заканчэнне будзе).

# "ЖЫЦЦЯ МАЙГО СКАРБ І АСНОВА..."

## СЛОВА ПРА КНІГУ ТВОРАЎ БЕЛАРУСКАГА ЛІТАРАТАРА НА ЭМІГРАЦЫІ Уладзіміра ДУДЗІЦКАГА

З Нью-Йорка прыйшла прыемная вестка, а разам з ёю і вялікі том твораў Уладзіміра Дудзіцкага "Напярэймы жаданьням". Адразу хачу сказаць, што імя гэтага таленавітага паэта, празаіка і перакладчыка, на жаль, не ўключана ні ў бібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі", ні ў даведнік "Беларускія пісьменнікі". Хочацца спадзявацца, што ў дадатковым шостым томе слоўніка імя яго ўсё ж будзе значыцца.

Вялікая кніга паэзіі і прозы нашага земляка выйшла з друку ў Нью-Йорку ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва з добрай рукі Зоры і Вітаўта Кіпеляў. Дарэчы, гэта ім належыць ідэя стварэння і выдання збору твораў У.Дудзіцкага. А цяпер -- усё па парадку.

Нарадзіўся Уладзімір Дудзіцкі (сапраўднае прозвішча Гуцька) 8 студзеня 1911 года на Чэрвеншчыне ў вёсцы Дудзічы. Вучыўся ў Мінскім белпедтэхнікуме. Уначы з 22 на 23 лютага 1933 года быў арыштаваны органамі НКУС і адпраўлены на тры гады ў канцэнтрацыйныя лагеры. Дарэчы, тады быў знішчаны і першы яго зборнік вершаў "Песні і думы".

У канцы 30-х гадоў Уладзімір Дудзіцкі вярнуўся ў Беларусь. Спачатку працаваў у газеце "Віцебскі Пралетары", а потым выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школах Віцебска.

У гады вайны жыў у Мінску. Быў адным з арганізатараў "Беларускай (Менскай) Газэты", працаваў загадчыкам Аддзела культуры і асветы ў Мінску і мінскай акрузе, школьным інспектарам у Барысаве, рэдагаваў часопіс "Беларус на варце"...

У 1944 годзе Уладзімір Дудзіцкі выехаў у Германію. Жыў таксама ў ЗША, Аўстрыі, Іспаніі, у Венесуэле. Пра эміграцыйнае жыццё паэта вядома вельмі мала. У Венесуэле, напрыклад, ён быў старшынёй Часовае ўправы аб'яднання беларусаў Венесуэлы...

Уладзімір Дудзіцкі -- бадай, самая трагічная творчая асоба ў беларускай літаратуры. Правільна адзначае ў сваім добрым і грунтоўным уступным слове ўкладальнік кнігі "Напярэймы жаданьням" Лявон Юрэвіч, што "Уладзімір Дудзіцкі вельмі сумаваў па Беларусі. Настолькі, што недзе ў 70-х паехаў на радзіму. І згінуў. А мо -- загінуў?.."

Кніга твораў "Напярэймы жаданьням" -- поўная сабраная спадчына нашага таленавітага літаратара. У невялікі раздзел "Проза" ўвайшлі жменька ўспамінаў, абразкі і ўрыўкі з аповесці "Голас крыві"...

Прыцягвае ўвагу першы паэтычны раздзел кнігі. Яго склалі вершы і паэмы. Шчыра прызнаюся, што гэта вельмі цёплыя, балючыя і тужлівыя творы. Большасць з іх прысвечана маці, сястры, землякам і, вядома ж, Беларусі. У іх няма фальшу, у іх -- боль і настальгія, прызнанне і трывога:

**Ня пытайся, мой**
**любы дружа,**
**як жывецца у краі гэтым.**
**Буду несьці у**
**сэрцы мужнасьць,**
**Пакуль песьня яшчэ**
**не сьпета.**

Беларускай мове і роднаму слову паэт пяе сапраўдныя гімны. Некаторыя з іх былі напісаны яшчэ ў 30-х гадах у сталінскіх лагерах у Сібіры:

**Прачынайся, малю я,**
**расьці і жыві,**
**ня згінайся на**
**ворыве новым,**
**ні на друзе рудым,**
**ні на сьцежках крыві,**
**О, жывое праўдзівае**
**слова!**

У другім вершы, які ўжо напісаны на эміграцыі ў снежні 1962 года, паэт прызнаецца:

**Кожным гукам зьвіні,**
**пладзі песьню-красу.**
**Ты --**
**Жыцьця майго**
**Скарб і аснова!**
**Як малітву, цябе**
**у сусьвет панясу --**
**Беларускае роднае слова!**

Хочацца адзначыць вельмі важную асаблівасць творчасці У.Дудзіцкага. Гэта ягоную сакавітую мову. У прадмове Лявон Юрэвіч падкрэслівае, што "мова твораў Уладзіміра Дудзіцкага павінна разглядацца як зьбераж оны скарб самабытнасці беларускай мовы і адна з цаглінак у справе нацыянальнага Адраджэньня".

Сапраўды так. Паэт смела і дасканала валодаў словам, умеў падабраць тое, якое ўзмоцніць твор, надасць яму прафесіянальную афарбоўку. Запомніліся, напрыклад, вось гэтыя два радкі:

**Веру, што верым, верым,**
**верым у веру вер...**

Уладзімір Дудзіцкі быў патрабавальным да сябе, ашчадна адносіўся да выбару слова. Русізмаў, як у некаторых эміграцыйных паэтаў, у яго няма. Творы яго вызначаюцца багатымі эпітэтамі, параўнаннямі, вобразамі:

**Я дні лічыў, схіліўшыся**
**на пліты,**
**і пліты цалаваў, і верыў:**
**не кране**
**вясны скупая, злая**
**восень-госьця,**
**рудая, чорная...**
**Вясна, жыві!**
**Адчуў твой пульс**
**на скрыўджаным**
**пагосьце**
**балючым накіпам**
**свае крыві.**

Так, арыгінальны і таленавіты паэт і празаік Уладзімір Дудзіцкі лічыў дні, каб вярнуцца на Беларусь. Сёння ён вяртаецца ўжо другі раз, вяртаецца зборам сваіх твораў "Напярэймы жаданьням". Нялёгкая гэта справа -- вяртанне. Але яно, дзякуючы Лявону і Алене Юрэвічам, Зоры і Вітаўту Кіпелям, Ірэне Рагалевіч-Дутко і Міколу Прускаму, здарылася, з небыцця вяртаецца яшчэ адно імя, вяртаецца, каб быць запісаным у гісторыю беларускай літаратуры.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## ПЛЁН СУПОЛЬНЫХ ВЫСІЛКАЎ

# ІМПРАВІЗАЦЫЯ НА ЗАДАДЗЕНУЮ ТЭМУ

Пакуль высокае начальства ад культуры разважае пра наспелую неабходнасць лучнасці духоўнае прасторы беларускіх творцаў незалежна ад месцаў іхняга пражывання, самі творцы сцвярджаюць гэта адзіна магчымым для іх спосабам -- творчасцю. Плён супольных высілкаў творцаў слова набывае апошнім часам усё больш прыкладаў у выглядзе выдрукаваных на радзіме кніг замежных беларускіх літаратараў. З'явілася многа даследаванняў невядомых раней шырокаму чытачу твораў пісьменнікаў-эмігрантаў.

Але гэтым разам гаворка пойдзе пра факт, які не мае аналагаў у гісторыі беларускае літаратуры. Два паэты напісалі адну кнігу. Не, гэта не той выпадак, калі пад адною вокладкаю злучаюць творы двух аўтараў. І не той, калі кніга складаецца з тэкстаў арыгінала і яго пераказу на іншую мову.

Мінчук Алесь Разанаў напісаў свае вершы паводле вершаў беластоцкае паэткі Надзеі Артымовіч. "Дзверы: тэкст і падтэкст" -- назвалі яны гэты супольны зборнік, што стаўся шыкоўным перадкалядным падарункам для мінскіх чытачоў, які яны атрымалі на вечарыне-прэзентацыі кнігі ў сталічным Доме літаратара.

Алесь Разанаў даўно мае рэпутацыю наватворцы адмысловых дзеля сваёй музы паэтычных формаў, сцвердзіў сваё амплуа ўжо некалькімі кнігамі, у кожнай з іх перасягаючы чаканні чытачоў. Версэты, вершаказы, пункціры -- далёка не поўны пералік прыдуманых ім паэтычных формаў. Сярод іх і такая, якую ён называе ператлумачэннем. Гэтым тэрмінам Алесь Разанаў азначае свае пераклады са старабеларускай на сучасную беларускую мову твораў Францішка Скарыны ды Кірылы Тураўскага.

Але ў даным выпадку перад намі іншы кірунак творчасці. Сам паэт, выступаючы на згаданай вечарыне, так гаварыў пра матывы, якімі выклікана супольная з беластоцкай паэткай кніга. Ёсць вершы Надзеі Артымовіч. Іх вобразы, сімвалы, паняцці не паказваюць цалкам свой поўны змест, нібыта хаваюць у глыбіні тэкстаў сваю выразнасць. І яму захацелася зазірнуць у прытоенае значэнне, расшыфраваць яго. Думаю, што спроба разгадаць таямніцу чужых твораў -- справа рызыкоўная. А ў даным выпадку -- рызыка падвойная, бо аўтар бярэ не проста тэкст іншага аўтара. Сутыкаюцца мужчынскі і жаночы светапогляды. Формуламі розуму тлумачыцца душа. Яшчэ вялікі Борхес, тлумачачы розніцу ў механіцы літаратурнай творчасці мужчыны і жанчыны, гаварыў, што тэксты прадстаўніц прыўкраснага полу ёсць адбітак іхніх эмоцый і інтуіцыі. Мысленне, якое вымагае логікі і ведання законаў літаратурных жанраў і метадаў, часцей за ўсё губляецца перад імпульсіўнымі паэтычнымі жаночымі радкамі, таму яны звычайна застаюцца па-за кантэкстам літаратуразнаўчых аспектаў. І застаюцца не разгаданымі да сёння столькі таямніц сусветнай жаночай лірыкі, пачынаючы ад легендарнай антычнай Сапфо і сканчваючы нашаю сучасніцай маладою паэткай з Вільні Таццянаю Сапач.

Надзея Артымовіч -- паэтка самазаглыбленая, з тых, чые вершы называюць вершамі ў сабе, у якіх на першы план выступаюць пошукі слова дзеля азначэння пачуцця. Кожнае такое знойдзенае слова, паводле самое Артымовіч, не мае дакладнага адрасу, нясе ў сабе яшчэ як мінімум адзін прытоены сэнс. А пошукі новых сэнсаў ужо вядомых словаў якраз і ёсць любімы занятак Алеся Разанава. Гэтаксама, як і стварэнне новых словаў дзеля азначэння вядомых з'яваў.

Маргіналіямі, заметкамі на палях вершаў Надзеі Артымовіч назваў Алесь Разанаў свае творы ў гэтай кніжцы. Але прачытваюцца яны як самастойныя творы, зададзеныя словам, што ўжо прагучала, але яшчэ не пачутае. Размешчаныя побач, яны існуюць як бы паралельна, на манер дзвюх старонак кожнага кніжнага развароту, на якіх папарна выдрукаваныя. Прысутны на вечарыне Ян Чыквін, таксама беластоцкі паэт, гаварыў, што створаная ў іхнім рэгіёне літаратура выглядае саматоеснай часткаю беларускае літаратуры. Ён выказаў здагадку, што змушаная ізаляванасць дзеля тамтэйшых аўтараў мела тую перавагу, што яны не пачуваліся правінцыяламі, а стварылі сталіцу сваёй беларускасці там, дзе жылі. Зараз, калі мы змаглі прачытаць ужо не толькі беластоцкіх, але і многіх амерыканскіх беларусаў, таго ж Янку Юхнаўца, да прыкладу, то нічога не застаецца, як паўтарыць банальную фразу пра адноснасць цэнтра і перыферыі ў духоўнай прасторы аднае культуры. У кніжцы Надзеі Артымовія і Алеся Разанава спалучаныя дзве моцныя паэтычныя натуры, кожная з якіх -- эпіцэнтр: толькі першая -- эмоцыю, а другая -- рацыю. Думаю, што аўтары, адважваючыся на гэты эксперымент, падазравалі пра ягоны вынік. Як факт суіснавання побач, але не разам.

І ўсё ж у сацыякультурным плане кніжка стала здабыткам паяднання, доказам таго, што на агульнай духоўнай прасторы няма сваіх і замежных, тут і там -- усе "нашы". Прызнаць гэта арганізацыйна заклікала кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, якая прысутнічала на вечарыне. Яна прывяла прыклад суседняй Літвы, у пісьменніцкі саюз якое прынятыя ўсе літаратары з дыяспары.

Абяцанне разгледзець у самы бліжэйшы час заявы беластоцкіх літаратараў аб прыёме іх у Саюз пісьменнікаў Беларусі тут жа прагучала з вуснаў сакратара пісьменніцкай рады Алеся Пісьмянкова.

**Валянціна АКСАК.**

## Анатоль ЛЯЛЯЎСКІ

**Пасля працяглай цяжкай хваробы памёр народны артыст Рэспублікі Беларусь Анатоль ЛЯЛЯЎСКІ.**

**Беларуская культура панесла страту, згубіўшы самаадданага творцу, які амаль усё свядомае жыццё прысвяціў мастацтву тэатра лялек, дасягнуўшы на гэтай ніве вялікіх поспехаў, гаворыцца ў некралогу, падпісаным дзяржаўнымі дзеячамі і работнікамі культуры.**

**Нарадзіўся Анатоль Аляксандравіч Ляляўскі 6 сакавіка 1923 года ў Маскве. У 1952 годзе скончыў Ташкенцкі тэатральна-мастацкі інстытут, а ў 1956 годзе прызначаны галоўным рэжысёрам Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі. З гэтага часу яго творчасць непарыўна звязана з беларускім тэатральным мастацтвам. Шмат увагі аддаваў А. Ляляўскі стварэнню арыгінальнай драматургіі. Ён ставіць спектаклі па п'есах беларускіх аўтараў: "Дзед і жораў" і "Цудоўная дудка" В. Вольскага, "Сярэбраная табакерка" паводле З. Бядулі, "Марынка-крапіўніца" А. Вольскага і П. Макаля, "Ліпавічкі" паводле У. Галубка, "Скажы сваё імя, салдат" А. Вярцінскага, "Сымон-музыка" паводле Я. Коласа, "Балада пра белую вішню" С. Клімковіч і інш.**

**З'яўляючыся да 1986 года галоўным рэжысёрам Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі, ён адначасова вёў актыўную педагагічную дзейнасць як выкладчык тэатральна-мастацкага інстытута. З яго выхаванцаў вырасла нямала майстроў сцэны, якія працуюць сёння ў тэатрах лялек краіны і за яе межамі.**

**За поспехі ў справе развіцця беларускага тэатральнага мастацтва А. Ляляўскаму ў 1979 годзе было прысвоена ганаровае званне народнага артыста Беларусі.**

**Светлая памяць пра таленавітага творцу, умелага выхаваўцеля моладзі, шчырага і сумленнага чалавека Анатоля Аляксандравіча Ляляўскага назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.**

# ПРАЦЯГ — У ВУЧНЯХ





**Мастак Генадзь Сухамлінаў піша ў традыцыйнай манеры, працуе ў тэхніцы алейнага жывапісу і малюе надзвычай прыгожыя нацюрморты і пейзажы. Член Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь, ён пастаянна ўдзельнічае ў выставах, двойчы выстаўляўся персанальна. Зараз таксама сабралася шмат цікавых карцін, якія добра было б паказаць, але пытанні, што сталі ўжо традыцыйнымі -- дзе, як і на якія грошы -- пакуль не даюць мастаку такой магчымасці. А шкада, бо ён знаходзіцца ў росквіце творчых сіл, калі назапашаны пэўны вопыт, а пражытае асэнсоўваецца і неяк само ўвасабляецца ў вельмі цікавых палотнах.**

**Аднак жывапіс не адзіны занятак гэтага таленавітага чалавека. Вось ужо 20 год, як ён выкладае ў Мінскім мастацкім ліцэі пры Беларускай акадэміі мастацтваў. І тут захапленне жывапісам дапамагае Генадзю Уладзіміравічу знайсці агульную мову са сваімі вучнямі, бо зараз дзеці вельмі зацікаўлены вучобай і здольныя ацаніць прафесійныя магчымасці выкладчыка. Выпадковых вучняў у ліцэі няма, таму часам здараецца, што працуюць яны тут самастойна аж да самага вечара і даводзіцца нагадваць, што ўжо час ісці дамоў. І да работ выкладчыка такія маленькія мастакі ставяцца вельмі ўважліва: адразу бачна, хто чаго варты, і добрыя палотны адчувальна ўздымаюць аўтарытэт настаўніка ў вачах вучняў.**

**Несумненна, што педагогіка адбірае ў мастака шмат часу, ды і сёння выкладчыцкая праца ажыццяўляецца амаль што на дабрачынных пачатках. Адзінае, што дае сілы і дазваляе трымацца на паверхні цяжкага жыцця, разуменне, што калі да людзей ставішся шчыра, то ўсё зробленае табою дабро рана ці позна вернецца, і не абавязкова ў грашовым вымярэнні, а чалавечай удзячнасцю і новымі творамі мастацтва. І калі выстаўляюць дзеці ў школе на прагляд свае работы, бачыць мастак у іх сваю руку і душу і думае, што лепшай падзякі яму і не трэба.**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



**НА ЗДЫМКАХ: Генадзь СУХАМЛІНАЎ з вучнямі; творы мастака "Жнівень"; "Сланечнікі".**

## АДСПЯВАЛІ, АДКАЛЯДАВАЛІ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Сёлета такім "распаўсюджвальнікам" выступіла самоўпраўленне культуры Мінскага гарвыканкома. Яно і арганізавала гэтае свята. Калляднае шэсце пачалося ад плошчы Якуба Коласа. Пад пошчак бубнаў, з традыцыйнымі калляднымі песнямі вялізная грамада прайшла па праспекце імя Скарыны да парку над Свіслаччу. Тут некалькі гадзін доўжылася калляднае відовішча.

Глядзіш на гэтыя здымкі і думаеш: самае дзіўнае сёння, бадай, тое, што людзі яшчэ весяляцца. Штодня людскія твары і на вуліцы, і ў метро -- шэрыя, невыразныя, сумныя... Але ж надышло свята! І вось яно, сапраўднае аблічча нашага народа -- ўсмешлівае, хітраватае, радаснае, светлае. Шкада, што гэта святло на тварах людзей захаваецца толькі на фотаздымках. А можа, нешта яшчэ застанецца і ў душах і будзе саграваць іх на працягу цэлага года. Напэўна так...





НА ЗДЫМКАХ: Калляднае свята ў Мінску 7 студзеня 1995 года.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## СПОРТ

БІЯТЛОН. На знакамітым спартыўным комплексе Раўбічы прайшоў чэмпіянат Беларусі. Ён адначасова вызначыў склад зборнай рэспублікі, якая прыме ўдзел у чарговых этапах Кубка зборнай рэспублікі, якая прыме ўдзел у чарговых этапах Кубка свету. У камандзе шмат знаёмых імёнаў, тых, хто некалі ўдала выступаў на Алімпійскіх гульнях і першынствах свету: Яўген Рэдзькін, Аляксандр Папоў, Святлана Парамыгіна і іншыя.

ГАНДБОЛ. Мацнейшая жаночая каманда Беларусі мінскі "Гарызонт" двойчы перамагла спартсменак рыжскага клуба ТТТ -- 97:80 і 79:45. Гэта дазволіла нашым зямлячкам выйсці ў фінал чэмпіянату Балтыйскай баскетбольнай лігі.

ХАКЕЙ. Маладзёжная зборная рэспублікі на першынстве свету ў групе "С" заняла чацвёртае месца.

Мінскія дынамаўцы ў розыгрышы Кубка Еўрапейскіх чэмпіёнаў сталі сёмымі і захавалі права выступаць у наступным розыгрышы адразу з паўфіналу.

ЛЫЖНАЕ ДВАЯБОР"Е. Удзельнік Алімпійскіх гульняў Сяргей Захаранка з Беларусі няўрэнна стартаваў на розыгрышы Кубка Інтэркантыненталь. У Оберхофе ён заняў пятае месца.

ШАШКІ. Нягледзячы на тое, што зборная Рэспублікі Беларусь выступала ў мацнейшым складзе (чэмпіён свету Анатоль Гантварг, Аляксандр Баляхін), яна ўступіла камандзе Галандыі ў таварыскай сустрэчы. Праўда, і ў камандзе сапернікаў таксама былі чэмпіёны свету.

ХАКЕЙ. У адкрытым чэмпіянаце Расіі мінская каманда "Юнацтва" была знята з розыгрышу. Справа не толькі ў тым, што нашы хакеісты выступаюць няўдала, але і ў фінансах -- не хапае грошай на раз'езды.



**Першым у рэспубліцы суддзёй міжнароднай катэгорыі па валейболу стаў гамяльчанін Юрый БАКУНОВІЧ (на здымку). Гэтага звання ён удастоіўся пасля здачы кваліфікацыйных экзаменаў, прычым на англійскай мове. Яны з'явіліся вынікам падрыхтоўкі ў спецыяльным цэнтры, і вытрымалі іх з 13 слухачоў з Еўропы і Азіі толькі 8. Цяпер Юрый мае права судзіць спаборніцтвы любога рангу, уключаючы Алімпійскія гульні.**

**Юрый скончыў Гомельскі дзяржаўны універсітэт і застаўся тут працаваць на кафедры тэорыі і методыкі фізкультуры. Цяпер ён трэніруе зборную каманду універсітэта па валейболу і жаночую каманду "Гамяльчанка", якая рыхтуецца да еўрапейскіх кубкавых турніраў.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ДА ЎВАГІ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ

**По просьбе замежных суайчыннікаў "Голас Радзімы" сёлета будзе працягваць друкаваць спіс адрасоў і тэлефонаў пасольстваў і консульстваў Рэспублікі Беларусь, якія адкрыліся ў далёкім і блізкім замежжы, а таксама ўключаць у гэты спіс і новыя звесткі або змяненні аб дыпламатычных прадстаўніцтвах, што адкрыты за межамі Беларусі.**

# СПІС

## АДРАСОЎ ЗАМЕЖНЫХ УСТАНОЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Аўстрыя**
**Botschaft der Republik Belarus in der Republik Osterreich/Standige Vertretung der Republik Belarus bei den internationalen Organisationen in Wien**
Erzherzog Karl-Strasse 182
A-1220 Wien
Osterreich
Tel.: 283 58 85
Fax: 283 58 86

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Каралеўстве Бельгія**
**Ambassade de la Republique de Belarus en Ruyaume de Belgique**
Rue Merlo 8A/9
1180 Bruxellex UCCLE
Tel.: 0032-2-332--38-84
Fax: 0032-2-332-38-85

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Балгарыя**
1113 София, ж.к. Лозенец
ул. Кокиче, 20
Тел./факс: 66 17 65
Тел.: 65 28 43

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі**
**Embassy of the Republic of Belarus in Great Britain**
1, St. Stephen's Crescent
London W2 5QT
Tel.: 071-221 39 41
(44(0)831-73 40 84 (mobile)
Fax: 071-221 39 46

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі**
**Botschaft der Republik Belarus in der Bundesrepublik Deutschland**
Fritz-Schaffer-Str. 20
53113 Bonn
Tel.: 0228-26 54 57 (прыёмная)
Fax: 0228-26 55 54
Консульскі аддзел Пасольства
Tel.: 0228-26 57 55
Fax: 0228-26 58 60

**Аддзяленне Пасольства Рэспублікі Беларусь у Берліне**
**Botschaft der Republik Belarus, Aussenstelle Berlin**
Unter den Linden 55-61
10117 Berlin
Tel.: 030-229 29 78
Fax: 030-229 24 69
Консульскі аддзел
Tel.: 030-229 95 94
Fax: 030-229 95 19

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль**
**Embassy of the Republic of Belarus in the State of Israel**
Kaufman-2
68012 Tel Aviv
Тел.: 03-510-22-36
Факс: 03-510-22-35

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у КНР**
**Embassy of the Republic of Belarus in the People's Republic of China**
P.O. 100600
Beijing, Chao Yang district,
Xin Dong road, Ta Yuan Office Building, 2-10-1
Tel.: 8-10-861-532-64-26
Fax: 8-10-861-532-64-17

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы**
LV 1010 Латвійская Рэспубліка
г. Рыга, вул. Элізабэтэс, д. 29
Тэл.: 8-0132-35 25 50
32 53 61
Факс: 88-0132-32-28-91

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча**
Ul. Atenska 67
03-978 Warszawa
Republika Polska
Telex: (10-48-2) 81 53 30
Fax: (10-48-2) 617 84 41
Tel.: (10-48-2) 617 32 12

(Працяг будзе)

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ
Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 6 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 3.
Падпісана да друку 16. 1.1995 г.